

# Літ Літаратура і мастацтва

Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ISSN 0024-4686

№ 7 (4807) 20 лютага 2015 г.




Думка пісьменніка

## Па-новаму...

**У сталіцы завяршылася XXII Мінская міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш. Пра адметнасці сёлетняга форуму дзеляцца ўражаннямі айчынныя творцы.**

**Алесь Савіцкі, празаік:**
— Лічу, што кніга патрэбна чалавеку як паветра. Сёлетняя выстаўка якраз і пацвярджае маю думку. Увогуле, абавязак пісьменніка сёння як ніколі высокі і адказны, бо Слова павінна гучаць. І яно сапраўды гучыць — гучыць набатам, звернутым да людскіх сэрцаў, і знаходзіць водгук. Нездарма на сустрэчы з прадстаўнікамі прэсы Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка зазначыў: «Я вельмі баюся страціць Кнігу. Страцім Кнігу — страцім нацыю, краіну». Сёння Кніга — гэта храм, які глыбока ўваходзіць у наша жыццё і не дазваляе памыліцца ў жыццёвым выбары. У ёй — светабачанне і светаадчуванне пісьменніка.

**Мікола Мятліцкі, паэт, перакладчык:**
— Форум гістарычна знакавы. Прыехала мноства пісьменнікаў з розных краін свету — прадстаўнікоў розных культур і літаратур. Надзвычай прыемна, што ганаровы госць выстаўкі-кірмашу — Кітай. З пісьменнікамі-дэлегатамі гэтай краіны пазнаёміўся асабіста. Сёння сталі рэальнасцю словы расійскага паэта Андрэя Вазнясенскага пра тое, што ўсялякі прагрэс рэакцыйны, калі руйнуецца чалавек. Думаю, што новыя пакаленні можна ўратаваць, калі сарыентаваць іх на агульначалавечыя каштоўнасці: працавітасць, мужнасць… І калі мы пастаянна будзем у творчым пошуку, свет адкрыецца нам яшчэ шырэй.

**Аляксандр Вашчанка, празаік, публіцыст:**
— Гэтая выстаўка — сапраўднае свята, якое дало магчымасць пазнаёміцца з мудрасцю тысячагоддзяў, з новымі ўздзельнікамі, якіх з кожным годам становіцца больш. Узрастае і колькасць наведвальнікаў, цікавасць да форуму. Вельмі радуе, што папяровая кніга не страчвае сваёй актуальнасці, яна па-ранейшаму патрэбная грамадству, нягледзячы на тэхнічны прагрэс і век высокіх тэхналогій.

**Віктар Шніп, паэт, галоўны рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура»:**
— Новы выставачны павільён больш прасторны. Тут ёсць паветра, так неабходнае кнізе. Уразілі сваёй яркасцю вокладкі прадстаўленых выданняў. Стасункі чытачоў і выдаўцоў, як заўсёды, добразычлівыя. Акрамя таго, выстаўку наведала багата пісьменнікаў, якія ладзілі тут сустрэчы з чытачамі ды аўтограф-сесіі.

**Кацярына Хадасевіч-Лісавая, пісьменніца, педагог:**
— Як настаўніца, я прывезла на выстаўку вучняў пятых класаў. Першае, што іх уразіла, — незлічоная колькасць яркіх кніг, якія можна было набыць, зазірнуць пад вокладкі, разглядзець малюнкі... Дзеці затрымліваліся і каля стэндаў, дзе ім было прапанавана памаляваць ці надрукаваць старонку з кітайскімі іерогліфамі.

**Яна ЯВІЧ**




Фота Кастуся Дробава

*Гран-пры 54 Нацыянальнага конкурсу «Мастацтва кнігі» з рук міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Ліліі Ананіч атрымлівае дырэктар «Паліграфкамбіната імя Якуба Коласа» Ігар Маланяк і кіраўнік выдавецтва «Бяловагруп» Таццяна Бялова.*

# Прыгажосць перамагае!

Нацыянальны конкурс «Мастацтва кнігі», гісторыя якога доўжыцца ўжо 54 гады, мае свае трывалыя традыцыі. Гэта пацвярджае той факт, што айчынныя выдаўцы шмат увагі звяртаюць не толькі на змест кніг, але і на афармленне, захоўваюць запаветы старэйшых калег, што асабліва значна напярэдадні 500-годдзя айчыннага кнігавыдання, якое будзе адзначацца ў 2017 годзе. Так, конкурсныя выданні спачатку разглядаюцца мастацка-экспертнай камісіяй, а потым абмяркоўваюцца падчас пасяджэння журы конкурсу. Цырымонія ўзнагароджання пераможцаў праходзіць у дні Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу, а выданні, уганараваныя прэміямі, папаўняюць экспазіцыю Музея беларускага кнігадрукавання ў Полацку і дэманструюцца падчас Дня беларускага пісьменства.

Старшыня журы Нацыянальнага конкурсу «Мастацтва кнігі», рэктар Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, кандыдат мастацтвазнаўства Міхаіл Баразна падчас урачыстай цырымоніі ўзнагароджання пераможцаў зазначыў:

— Конкурс «Мастацтва кнігі» — адзін з найстарэйшых творчых конкурсаў на тэрыторыі Беларусі. Яго шматгадовая гісторыя сведчыць пра тое, што мастацтва стварэння кніг у нашай краіне — гэта сугучча творчасці, інтэлекту і майстэрства. Напярэдзе новыя тэхналогіі, новыя рашэнні і адкрыцці, але прыгажосць, гармонія ў кнізе заўсёды будуць прыярытэтнымі.

Сустаршыня журы, міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч, пасля ўручэння галоўнай узнагароды конкурсу, падкрэсліла:

— Я мела гонар суправаджаць высокіх гасцей па кніжнай экспазіцыі выстаўкі, і кніга — пераможца сёлетняга конкурсу ўжо атрымлівае самае значнае прызнанне. Я ўпэўнена, што выданне будзе запатрабавана тымі, хто хоча бачыць прыгожую, гістарычную, старажытную краіну Беларусь, скіраваную ў будучыню.

Але вернемся да самага галоўнага — вынікаў. Так, найвышэйшай узнагароды 54-га Нацыянальнага конкурсу «Мастацтва кнігі» — Гран-пры ў намінацыі «Трыумф» — удастоены фотаальбом «Беларусь замкавая». Ганаровы знак-сімвал «Вялікі залаты фаліянт» і дыплом імя Ф. Скарыны за падрыхтоўку праекта атрымаў калектыў выдавецтва «Бяловагруп», а таксама «Паліграфкамбінат імя Якуба Коласа» — за выдатнае паліграфічнае выкананне кнігі.

Уладальнікамі «Малых залатых фаліянтаў» сталі выдавецтвы — пераможцы тэматычных і спецыяльных конкурсных намінацый. Так, у намінацыі «Залатыя скрыжалі» на лепшае даведачнае і энцыклапедычнае выданне перамогу атрымала «Беларуская Энцыклапедыя П. Броўкі». Самай яркай энцыклапедыяй года журы назвала «Вялікую энцыклапедыю вялікага тэатра Беларусі». Факсімільнае выданне «Тураўскае Евангелле. Туровское Евангелие. Turau Gospel», падрыхтаванае Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі, стала найлепшым у намінацыі «Духоўнасць», а сумесны праект галоўнай кніжніцы краіны і «БелЭн імя П. Броўкі» — «Кніжная спадчына Беларусі» — былі названы лепшым у спецыяльнай намінацыі «За ўклад у захаванне духоўнай спадчыны».

Кніга Стэфана Цвейга «Шахматная навела» выдавецтва Collection названа найлепшым літаратурна-мастацкім выданнем і атрымала перамогу ў намінацыі «ЛІТ-фармат». Найлепшай серыяй кніг для дзяцей у намінацыі «Разам з кнігай мы расцём» стала «Журавінк@» выдавецтва «Мастацкая літаратура». У намінацыі «Фотапогляд» перамогу атрымаў фотаальбом Аляксандра Аляксеева і Алега Лукашэвіча «Скарбы Беларусі», што пабачыў свет у выдавецтве «Чатыры чвэрці».

Чытайце на стар. 2

# Прыгажосць перамагае!

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.**

Даследаванне Алега Радкевіча «Беларускі тэхналагічны ўніверсітэт у сілуэтах і вобразах» перамагло ў намінацыі «АРТ-кніга», дзе традыцыйна прадстаўляюцца выданні па выяўленчым мастацтве, факсімільныя, рэпрынтныя праекты, бібліяфільскія кнігі. Найлепшым навуковым і навукова-папулярным выданнем года і пераможцай у намінацыі «Эўрыка» стала калектыўная двухтомная праца «Нарысы гісторыі культуры Беларусі», што пабачыла свет у Выдавецкім доме «Беларуская навука».

Адразу два выдавецкія праекты БелТА сёлета атрымалі «Малыя залатыя фаліянты». Найлепшым у спецыяльнай намінацыі «Перамога» (да 70-годдзя Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне) быў названы альбом «Перамога — адна на ўсіх», а ў спецыяльнай намінацыі «У люстэрку часу», дзе былі прадстаўленыя кнігі, выдадзеныя па заказе, перамагло выданне «Мінскі аўтамабільны завод. Вопыт сямі дзесяцігоддзяў». Серыя «Дзіцячая бібліятэка», што рыхтуецца беларускім выдавецтвам «Кніжны Дом» сумесна з польскім Elzbieta Jarmolkiewicz, была названа найлепшым сумесным праектам і атрымала перамогу ў намінацыі «Садружнасць».

Па традыцыі сёлета ўручаліся і ўзнагароды ў персанальнай намінацыі «Майстэрства». Так, ілюстратарам года стала Кацярына Дубовік — за ілюстрацыі да кнігі Стэфана Цвэйга «Шахматная навела», лепшым дызайнерам — Генадзь Мацур — за арыгінальны дызайн кніг «Беларускі савецкі плакат», «Радзівілы. Нясвіж. Замак». Найлепшым фотамастаком быў прызнаны Георгій Ліхтаровіч — за вялікі ўклад у кніжную фатаграфічную культуру Беларусі.

Персанальны дыплом з уручэннем знака-сімвала «Малы залаты фаліянт» быў пасмяротна прысуджаны дырэктару выдавецтва «Пачатковая школа» Наталлі Ванінай за вялікі асабісты ўклад у развіццё нацыянальнага кнігавыдання.

Не застаўся без узнагарод і Выдавецкі дом «Звязда». Так, дыплом I ступені ў намінацыі «Разам з кнігай мы расцём» атрымала выданне Вольгі Аляксеевай «Падарунак ад Дзеда Мароза». Альбом «Скульптура. Уладзімір Слабодчыкаў» заваяваў дыплом I ступені у намінацыі «АРТ-кніга», дыплом II ступені ў спецыяльнай намінацыі «За ўклад у захаванне духоўнай спадчыны» прысуджаны кнізе «Францыск Скарына на мовах народаў свету».

XXII Мінская міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш ужо завяршыла сваю працу. Але на гэтым сезон выставак толькі распачаўся. Міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч распавяла, што наша краіна запрошана ў якасці ганаровага госця на Санкт-Пецярбургскі міжнародны кніжны салон, на Пекінскую кніжную выстаўку-кірмаш, нашы выдавецтвы сёлета пашыраць удзел у Франкфурцкім кніжным кірмашы, будуць прадстаўляць краіну ў Маскве, Алматы, Ашхабадзе, Вільнюсе. Мяркуючы па якасці і прыгажосці выданняў — пераможцаў Нацыянальнага конкурсу «Мастацтва кнігі», можна быць упэўненымі, што наша краіна будзе прадстаўленая ва ўсім свеце на самым высокім узроўні.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Рэчышча — агульнае

Двухмоўны калектыўны зборнік твораў беларускіх і расійскіх паэтаў «Непадзельнае рэчышча» («Неделимое русло»), што летась пабачыў свет у Санкт-Пецярбургу, двойчы прэзентаваўся ў нашай сталіцы: на XXII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы і ў Доме дружбы. У кнігу ўвайшлі вершы 93 аўтараў, 41 з іх — прадстаўнікі Беларусі.

Прадстаўляючы зборнік падчас міжнароднага кніжнага форуму, паэтэса Аліна Легастаева распавяла: каб прэзентаваць праект у Санкт-Пецярбургу, у снежні яны разам з паэтам Андрэем Скарынкіным наведалі гэты горад.

Старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў зазначыў: выхад гэтага зборніка — працяг даўняга і плённага творчага супрацоўніцтва беларускіх і расійскіх пісьменнікаў. Свае вершы прачыталі таксама іншыя аўтары кнігі: Дзмітрый Дземідовіч, Навум Гальпяровіч, Ала Чорная, якая дзіцем перажыла блакаду Ленінграда, і Валянціна Паліканіна.

На прэзентацыю ў Дом дружбы завітаў паэт Андрэй Антонаў з Санкт-Пецярбурга, член Саюза пісьменнікаў Расіі, адзін з аўтараў і ўкладальнік кнігі з расійскага боку. Ён адзначыў: ідэя стварэння зборніка ўзнікла яшчэ ў 2011 г., а выйшла кніга пры падтрымцы Камітэта па друку г. Санкт-Пецярбурга. Акрамя таго, Андрэй Вітальевіч зачытаў прывітальное слова айчынным творцам ад пецярбургскіх калег.

Творы расійскіх паэтаў падчас сустрэчы гучалі ў выкананні ўдзельнікаў студыі мастацкага чытання «Вобраз» пры Мінскім гарадскім аддзяленні Саюза пісьменнікаў Беларусі, якой кіруе намеснік старшыні МГА СПБ Наталія Касцючэнка.

**Яна ЯВІЧ**

## Фотапозірк



Фота Цуа Джыхонг

У межах XXII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу адбылася дыскусія на тэму «Развіццё кітайскай паэзіі» паміж паэтамі Міколам Мятліцкім і Сі Чуанем. Мікола Мятліцкі падрабязна распавёў пра сваю кнігу перакладаў з кітайскай паэзіі «Пад крыламі Дракона: Сто паэтаў Кітая», чым вельмі зацікавіў Сі Чуаня, і далей гутарка вялася пераважна пра мастацкія пераклады. Сі Чуань падзяліўся сваімі ўражаннямі ад беларускай паэзіі, знаёміцца з якой пачаў нядаўна.



# Калі мастацтва паядноўвае

Многія мерапрыемствы XXII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу праходзілі за межамі асноўнай пляцоўкі: у бібліятэках горада, выдавецтвах. Тым самым шырылася прастора знаёмства з кнігай.

Адна з сустрэч, арганізаваная Выдавецкім домам «Звязда», прайшла ў майстэрні вядомага скульптара Уладзіміра Слабодчыкава. Загадчык кафедры скульптуры Беларускай акадэміі мастацтваў пазнаёміў пісьменнікаў з Казахстана, Азербайджана, Расіі з уласнай творчасцю, расказаў пра здабыткі калег у выяўленчым мастацтве. Уладзімір Іванавіч, чыёй творчасці прысвечаны нядаўна выдадзены ў «Звяздзе» мастацкі альбом, звярнуў увагу на кніжнае выкладанне выяўленчага мастацтва ў Беларусі. Адзін з гасцей сустрэчы — дырэктар маскоўскага выдавецтва «Художественная литература» Георгій Прахін зазначыў:

— Уражвае зробленае Уладзімірам Слабодчыкавым. Як і ўражваюць напрацоўкі беларускіх кнігавыдаўцоў, Міністэрства інфармацыі ў справе прапаганды творчасці лепшых мастакоў, скульптараў вашай краіны. Я некалі добра ведаў Міхаіла Савіцкага. Лічу, што Беларусі ёсць чым ганарыцца і ў выяўленчым мастацтве. Прапаноўвайце сумесныя праекты для нашага выдавецтва, для іншых калег з Расіі.

Да размовы далучыўся і азербайджанскі паэт Чынгіз Аліаглу:

— Чаму б не наладзіць прэзентацыю вашых мастацкіх кніг у Баку? Гэтую справу можна было б сумясціць і з адкрыццём мастацкіх выставак, прысвечаных персанажам таго ці іншага альбома.

Гаспадар майстэрні падзякаваў гасцям за добрыя ініцыятывы, выказаў спадзяванне, што музы павінны яднацца, і розныя народы ды іх культуры — таксама.

**Мікола БЕРЛЕЖ**

# Ад першай главы

Падчас XXII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу прайшла цырымонія ўзнагароджання пераможцаў трэцяга сезона конкурсу для аўтараў-пачаткоўцаў «Першая глава», арганізатарамі якога выступілі Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь і інфармацыйна-прававое агенцтва «Рэгістр».

Мерапрыемства складалася з дзвюх частак. Падчас першай былі названыя пераможцы конкурсу, у другой была прэзентавана кніга «Не каханне» Аксаны Хвашчэўскай, якая летась атрымала галоўную ўзнагароду «Першай главы».

Сёлета ўдзельнікамі конкурсу сталі 59 твораў на беларускай і рускай мове. Першы дыплом у намінацыі «Выбар чытача» атрымала Анастасія Трушнікава за ўрывак з аповесці «Неадпраўлены ліст». Пераможцам другой намінацыі «Выбар рэдакцыі» стала Алёна Занкавец з урыўкам з рамана «Дзясятае жаданне».

Галоўным жа пераможцам конкурсу «Першая глава» ў намінацыі «Выбар прафесійнага журы» стаў Андрэй Лазар з урыўкам з аповесці «Таварыства кнігалюбаў». Андрэй атрымаў магчымасць заключыць кантракт з выдавецтвам «Рэгістр» на выпуск кнігі, а таксама яе далейшую рэкламную кампанію.

Цёплы прыём намінантаў і няземушаная атмасфера цырымоніі пакінулі прыемныя ўражанні. Застаецца спадзявацца на хуткае з'яўленне новай цікавай кнігі.

**Яўген СІНІЧЭНКА**

# Рандэву з Коласам

Напярэдадні 14 лютага ў Дзяржаўным літаратурным музеі Якуба Коласа адбылася імпрэза «Ён, яна, іх свет не месціць…», прымеркаваная да Дня ўсіх закаханых. Вечар распачаўся іранічна-рамантычным выступленнем студэнтаў Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў. Затым увазе гасцей быў прадстаўлены цэлы канцэрт. Уласныя песні пра каханне і не толькі выканалі Кацярына Ваданосава, Сяргей Башлыкевіч, Уладзімір Дрындрожык, Яўген Барышнікаў. Атмасфера ў доме песняра была напоўнена натхненнем ды пяшчотай. Прысутныя дарылі адзін аднаму падарункі, танцавалі, гулялі ў настольныя гульні і мелі магчымасць напісаць запаветнае жаданне за сталом Якуба Коласа пяром майстра.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

# Закружыла «Мяцеліца»...

**Конкурс выканаўцаў беларускіх народных танцаў «Мяцеліца-2015», што адбыўся ў Мінскім палацы дзяцей і моладзі, аб'яднаў удзельнікаў з розных рэгіёнаў нашай краіны.**

«Мяцеліца» працягвае традыцыі Рэспубліканскага фестывалю фальклорнага мастацтва «Берагіня» і праводзіцца ў сталіцы ўжо другі раз. Кіраўнік конкурснага праекта Мікола Козенка — нястомны даследчык аўтэнтычнага беларускага танца, лаўрэат спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва. Арганізатарамі сёлетняй «Мяцеліцы» выступіла Школа традыцыйнага мастацтва гурта «GUDA» супольна з Беларускім фондам культуры і Мінскім дзяржаўным Палацам дзяцей і моладзі. Мэта конкурсу — аднаўленне і захаванне народнай танцавальнай культуры сярод моладзі і дарослых, стварэнне ўмоў для пераймання ўзораў традыцыйнага танца ад носьбітаў старэйшага пакалення.

«Прыемна, што цікавасць да народных танцаў, як і да традыцыйнай культуры ўвогуле, расце ва ўсіх беларусаў — маленькіх і дарослых», — зазначыў намеснік старшыні Беларускага фонду культуры Тадэуш Стружэцкі.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

# Вайна ў раманах

Прэзентацыя дзвюх кніг, прысвечаных Вялікай Айчыннай вайне, — «Аперацыя "Кроў"» Мікалая Чаргінца («Мастацкая літаратура») і «Обаль» Алеся Савіцкага (Выдавецкі дом «Звязда»), — адбылася на XXII Мінскай міжнароднай кніжнай выставе-кірмашы.

Літаратуразнаўца, доктар філалагічных навук, прафесар Іван Саверчанка, пяру якога належыць рэцэнзія на кнігу «Аперацыя "Кроў"», зазначыў: раман, які яму пашчасціла чытаць яшчэ ў рукапісе, уражвае з першых старонак: тут упершыню ў айчыннай літаратуры поўна асветлена тэма дзейнасці мінскага гета, дзе штодзённа гінула амаль 10 тысяч чалавек. Такое асвятленне дазваляе глыбей зразумець гістарычныя рэаліі ваеннага часу, убачыць на канкрэтных прыкладах дзікі твар фашызму. Акрамя таго, на тэрыторыі Беларусі існавала 14 лагераў смерці, дзе ў дзяцей, разлучаных з бацькамі, бралі кроў для афіцэраў і салдат вермахта…

Паводле празаіка, ветэрана Вялікай Айчыннай Алеся Савіцкага, «Аперацыя "Кроў"» — яскравая старонка мужнасці і адвагі не толькі беларускага, але і ўсяго савецкага народа, байцоў перадавой і падполля, у тым ліку маладых змагароў, якія верылі ў светлую будучыню.

Мікалай Чаргінец раскрывае ў рамане і тагачасную панараму мінскіх вуліц, гарадскога жыцця. Перад чытачом паўстаюць не толькі злачынствы ворага на акупіраванай тэрыторыі, але і паводзіны ды характары людзей, якія ахвяравалі ўласным жыццём, каб наблізіць Перамогу.

Першы сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі Генадзь Пашкоў заўважыў: нягледзячы на розніцу ва ўзросце, абодва празаікі надзвычай глыбока адчулі жахі вайны, псіхалогію людзей ва ўмовах акупацыі.

Раман Алеся Савіцкага «Обаль» — пра аднайменную вёсачку на Віцебшчыне, дзе існавала падпольная маладзёжная арганізацыя, дзейнасць якой была скіравана на супраціўленне фашызму. У аснове твора — гістарычныя рэаліі. Тут паказаны вытокі гераізму моладзі, раскрываюцца характары, пачуцці, перажыванні персанажаў.

Старшыня СПБ Мікалай Чаргінец падкрэсліў: «Аперацыя "Кроў"» — дапаўненне таго, пра што піша Алесь Савіцкі, усе творы якога — гісторыя нашай краіны.

**Яна ЯВІЧ**

# Адзначана

Традыцыйна добрыя адносіны ў галіне прыгожага пісьменства існуюць паміж Беларуссю і Таджыкістанам. На таджыкскую мову перастворваны шэраг твораў беларускіх аўтараў. Сёлета наведвальнікам выстаўкі прадставілі апавяданні Марыі Рудовіч пад назвай «Карні XXI» — «XXI стагоддзе». Зацікаўлены чытач мае магчымасць пазнаёміцца з сучаснымі дасягненнямі таджыкскіх пісьменнікаў, прынамсі, з празаічнымі, драматургічнымі творамі для дзяцей Мехмона Бахці і Ато Хамдама ў перастварэнні Ірыны Качатковай. На яе рахунку — пераклады твораў пісьменнікаў Казахстана, Кіргізіі, Азербайджана, Расіі, Малдовы на беларускую мову, а таксама пераклады твораў айчынных аўтараў на рускую.

За ўмацаванне творчых сувязей паміж таджыкскай і беларускай літаратурамі Ірына Качаткова адзначана «Ганаровым знакам слова» Саюза пісьменнікаў Таджыкістана.

**Міра ІЎКОВІЧ**

# Дзеля міру

**Калектыўны зборнік твораў сяброў Мінскага абласнога аддзялення СПБ «Радзіма. Адзінства. Перамога» (Выдавецкі дом «Звязда», 2015), выхад якога прымеркаваны да 70-годдзя Вялікай Перамогі, быў прэзентаваны падчас XXII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу.**

У кнізе — творы розных жанраў: проза, паэзія, публіцыстыка. Збор матэрыялаў пачаўся яшчэ тады, калі намеснікам старшыні Мінскага абласнога аддзялення СПБ быў пісьменнік Анатоль Смалянка. Да трагічных падзей Вялікай Айчыннай вайны звярталіся і іншыя аўтары зборніка: старшыня аддзялення Алесь Карлюкевіч, Васіль Гурскі, Іван Муравейка, Валянціна Гіруць-Русакевіч…

На міжнародным кніжным форуме зборнік прадстаўлялі паэты Рэгіна Рэўтовіч, Віктар Кажура і Уладзімір Цанунін, а таксама публіцысты Барыс Даўгатовіч (укладальнік выдання) і Зіновій Прыгодзіч, якія падкрэслівалі: пра вайну трэба пісаць перш за ўсё для таго, каб сучаснае маладое пакаленне ведала праўду.

**Яна ЯВІЧ**




# Гукі фарбаў

Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы запрасіў на выстаўку «Пад гукі дудука» Ануш Бабаян.

Выстаўка арганізаваная Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь, Пасольствам Рэспублікі Арменія ў Беларусі і Мінскім міжнародным жаночым клубам жонак паслоў, дыпламатаў і народных прадстаўнікоў. На адкрыцці выстаўкі прысутнічалі прадстаўніцы клуба і яго прэзідэнт Анаміка Бхарці. Сама спадарыня Ануш — жонка саветніка Пасольства Арменіі ў Беларусі.

Ануш Бабаян адзначыла, што яна не мастак, а філолаг, які малюе. Спадарыня Ануш мае навуковыя працы, прысвечаныя аксіялагічным праблемам эстэтычнага выхавання моладзі. Цяга да жывапісу з'явілася ўжо ў Беларусі. Яе працы маюць цікавую адметнасць: у змесце — армянскія сімвалы (галоўны сярод якіх — Арарат), але выкананне, тэхніка моцна набліжаная да кітайскай традыцыі.

Выстаўка — крок да ўмацавання беларуска-армянскіх сувязей, пачатак якім паклаў яшчэ Янка Купала: сярод яго сяброў былі армянскія пісьменнікі Наіры Зар'ян і Гурген Маары, як народны дыпламат ён вітаў армянскі народ падчас святкавання 1000-годдзя эпасу «Давід Сасунскі».

— Для нашай установы стала добрай традыцыяй праводзіць такі дыялог культур, — адзначыла дырэктар музея Алена Ляшковіч. — Янка Купала быў прадстаўніком народнай дыпламатыі. Ён стаяў ля вытокаў Беларускага таварыства дружбы з замежнымі краінамі, быў у Грузіі і Арменіі, Чэхіі і Славакіі, Польшчы і Літве. І нам лёсам прадказана гэтыя сувязі ўмацоўваць і развіваць.

**Уладзімір ГОРЫНЬ**

# Вучні ды майстры

**У гонар народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна на філалагічным факультэце БДУ прайшоў майстар-клас па яго творчасці.**

Рыгор Іванавіч меў шмат высокіх узнагарод, сярод якіх не згубілася і адна, вельмі характэрная для сусветнай акадэмічнай традыцыі: ганаровы доктар БДУ. На сустрэчу да студэнтаў-беларусістаў прыйшоў паэт Алесь Дуброўскі-Сарочанкаў, аўтар паэтычных кніг «Паміж небам і багнаю» і «Эстэтыка маўчання», а таксама манаграфіі «Паэтыка Рыгора Барадуліна: рытмічная арганізацыя верша» (2006). Ён і правёў майстар-клас. На сустрэчы прысутнічалі таксама паэтэса, дацэнт Ірына Багдановіч і прафесар Людміла Сінькова. Лекцыйная частка сустрэчы была прысвечана паэтычнаму майстэрству Рыгора Барадуліна. Гармонія сэнсу і гучання «правяралася алгебрай» — схемамі і сілабічных, і (асабліва яскрава) танічных вершаў Р. Барадуліна. Ілюстрацыі з замежнага кантэксту, як паэтычнага, так і тэарэтычнага, падкрэслівалі маштабнасць творчага плёну Рыгора Барадуліна.

Зацікавіла студэнтаў і ўласная лірыка Алеся Дуброўскага. У пэўнай ступені дыскусійным на сустрэчы паўстала пытанне пра вызначэнне духоўнай лірыкі, яе суадносіны з канфесійнай і гуманістычнай. Аднойчы ў Рыгора Барадуліна спыталі: «Як вы прыйшлі да духоўнай літаратуры?» На што ён адказаў: «А я і не адыходзіў яе». На пытанне «Што для Вас у вершах самае галоўнае?» Алесь Дуброўскі адказаў: «Прыгажосць!» Яго водгук-страфа на радок Рыгора Барадуліна «На *ты* лепей з Богам і з маці» прагучаў наступным чынам: «Не «Ён», не «Яно», а «Ты» — // адзіны прыдатны займеннік, // каб вырваца з пустаты // ў асобаснае вымярэнне».

**Таццяна КУРМАЗІЯ, Сняжана ШКАДУН, Маргарыта УЛАСАВА**

# Да неба і зорак

Іван Навуменка — таленавіты даследчык і творца, выдатны выкладчык, паважаны супрацоўнік, клапатлівы бацька... Да 90-годдзя з дня нараджэння народнага пісьменніка Беларусі ў літаратурным музеі Петруся Броўкі адбылося адкрыццё выставы «Іван Навуменка. Мудрасць слова і жыцця». Большасць экспанатаў была прадастаўлена музею старэйшай дачкой пісьменніка Валерыяй Іванаўнай, якая ў час сустрэчы распавядала пра сваю сям'ю, згадвала цікавыя гісторыі з жыцця бабулі — бацькавай маці Марыі Пятроўны.

Супрацоўнік Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, літаратуразнаўца Ігар Шаладонаў расказаў пра тое, як ішла праца над зборам твораў Івана Навуменкі. На думку даследчыка, «у мастацкай прозе Івана Якаўлевіча выразна выяўляецца сялянская жыццёвая трываласць, учэпісты характар палешука, устойлівасць да жыццёвых нягодаў, якія выпалі як на долю яго пакалення, так і на долю Беларусі».

Паводле Людмілы Карпавай, Іван Навуменка быў адной з «хадзячых энцыклапедый» філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. «Ён жыў у пісьменніцкім доме, я сябравала з яго дочкамі — але для мяне было вялікай адказнасцю здаваць Івану Якаўлевічу экзамены, рыхтавацца да яго спецсемінараў. Побач з такімі выкладчыкамі студэнты заўсёды імкнуліся быць прыгажэйшымі, разумнейшымі, лепшымі. Іван Навуменка быў з кагорты тых, хто вучыў не ўзірацца ў брудныя лужыны пад нагамі, а скіроўваць позірк вышэй, да неба і зорак».

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

**Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

**20 лютага** — *на літаратурнае свята, прысвечанае Міжнароднаму дню роднай мовы. Мерапрыемства з удзелам старшыні Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхася Пазнякова адбудзецца ў гімназіі № 3 г. Магілёва (вул. Ленінская, 41). Пачатак — а 13-й гадзіне.*

**22 лютага** — *на пасяджэнне студыі юных літаратараў «Маліна́ўскія галасы» пры дзіцячай бібліятэцы № 15 (вул. Слабадская, 27). Пачатак а 12-й гадзіне.*

**23 лютага** — *на літаратурнае свята, прысвечанае Міжнароднаму дню роднай мовы. Імпрэза пройдзе на філалагічным факультэце Белдзяржуніверсітэта (вул. К. Маркса, 31) у аўдыторыі Васіля Быкава. Пачатак у 12:45.*

**23 лютага** — *на творчую сустрэчу з маладымі пісьменнікамі ў Мінскі гарадскі навучальна-аздараўленчы цэнтр «Лідар» (г. п. Ждановічы). Пачатак а 15-й гадзіне.*

**25 лютага** — *у літаратурную гасцёўню «Сугучча» пры СШ № 77 (вул. Крупскай, 10) на прэзентацыю кніг пісьменніка Уладзіміра Мазго. Пачатак у 14.15.*

**25 лютага** — *у літаратурную гасцёўню «Аўтограф» пры інтэрнаце Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта (вул. Карбышава, 42) на творчую сустрэчу з маладымі паэтамі. Пачатак — а 10-й гадзіне.*

**26 лютага** — *на пасяджэнне студыі мастацкага чытання «Вобраз» пры СШ № 23 (вул. П. Панчанкі, 56). Пачатак а 13-й гадзіне.*

**26 лютага** — *на ўрачыстае адкрыццё літаратурнага клуба «Спадчына» пры гімназіі № 35 (вул. Кіжаватава, 70). Пачатак а 14-й гадзіне.*

**26 лютага** — *на літаратурна-музычнае свята «Беларусь пад белымі крыламі». Мерапрыемства адбудзецца ў публічнай бібліятэцы № 7 (вул. Пляханава, 94, к. 4). Пачатак а 17-й гадзіне.*

**Мінскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

**26 лютага** — *на вечар аўтарскай песні «Тры акорды» з удзелам бардаў Міншчыны. Мерапрыемства адбудзецца ў малой зале Палаца культуры г. Маладзечна (Цэнтральная плошча, 4). Пачатак у 18.00.*

## Сяргей ДАВІДОВІЧ



## Вечная святыня

Паэма

Раптоўна стала ціха на Зямлі,
Спыніліся і справы, і забавы.
Тэлеканалы працу пачалі
Не як заўжды, а з экстраннай аб'явы.

Здавалася, што й сам тэлеэкран
За кожным словам плакаў непрыкметна:
«Пайшоў з жыцця апошні ветэран
Жахлівай той вайны — Другой сусветнай...»

Хто? Дзе? Калі? Якой дзяржавы сын? —
У кожным сэрцы трапяталі словы.
Як прозвішча? Няўжо ён быў адзін?..
А ў слове «быў» — заўсёды сэнс суровы.

Не стала пераможцы... І Зямля
Застыла ў нейкім сне зачараваным,
Як быццам жыць збіралася з нуля,
Расстаўшыся з апошнім ветэранам.

Свет аб'яднаўся гэтай навіной
І з болем зразумеў маштабы бедства —
Так, быў ён сынам, толькі не адной
Дзяржавы — сынам чалавецтва.

***

На шчасце, гэтай страты не было,
Ды боль душы такія думкі родзіць...
Каб не патухла памяці святло,
У будучыню зазірнуць не шкодзіць,
У той трагічны, невядомы час,
Які няўмольна асіроціць нас.

***

Свет новы нараджаў у сэрцы кожным
Далёкі сорак пяты, пераможны.
Трыумфаваў і плакаў сорак пяты
Ад перамогі і вялікай страты.
І хоць святло і цень ляглі на шалі,
Усенародна свята адзначалі.
І радавацца ад чаго было —
Павержана бязлітаснае зло.
Ідзе жыццё рытмічна й арытмічна,
А гэты дзень святкуюць гістарычна,
Вялікі дзень Вялікай Перамогі —
Не зарастаюць памяці дарогі.
Вайна далёка, у мінулым дзесьці,
І з кожным годам ветэранаў шэсці
Мацней сумленным людзям сэрцы грэюць,
Ды толькі шэсцяў тых рады радзеюць,
Як пасля доўгай той вайны праклятай,
З якой не ўсе вярнуліся дахаты.
Звані, Сусвет, няспыннымі званамі —
Усё меней ветэранаў паміж намі,
Ідуць яны ў апошнюю дарогу,
Свет сірацее — сэрцы б'юць трывогу.
Надыдзе дзень — і нікуды не дзецца,
Калі на ўсёй планеце застанецца
На ўсе народы і на ўсе краіны,
Адзін! Апошні ветэран!

А-дзі-ны!
Ці будзе ён заўважаны, ці не?
Ці чалавецтва гэта праміне?
І знікне ён, апошні, непрыкметна,
Як той, хто першы ўпаўшы на сусветнай?
А быў ён, першы, на франтах ці ў тыле,
І спіць у першай на вайне магіле...
Як гэта важна ў мітусні штодзённай,
У грамадзе сусветнай шматмільённай
Вялікі подзвіг шанаваць нязменна
І ведаць пераможцаў паіменна,
Бо Перамога — вечная святыня,
Святло яе не згасне, не астыне.

***

О, колькі сонца над зямлёю сёння!
Якое неба — сінява, бяздонне!
Які прастор, размах палёў жытнёвых!
А колькі гарадоў і вёсак новых!
Жывуць тут мірна і працуюць плённа,
Упэўнена, духоўна і натхнёна.
Не ганарыцца гэтым немагчыма,
Бо гэта — наша светлая Радзіма!
Паспелі адрадзіцца ўсе і ўсюды —
Парыж даўно ачысціўся ад бруду,
Які зваліўся з ботаў акупантаў,
І зноўку у Парыжа выгляд франта.
І Лондан, дзякуй богу, не загінуў,
Адбудаваўся з попелу й руінаў,
Змагаўся, як салдат сапраўдны, мужна —
І зноў жывуць тут незалежна, дружна.
— Ура салдату-вызваленцу! Слава! —
Не стрымлівала радасці Варшава,
І памятала, як ад шчасця плакаў
Уратаваны ад знішчэння Кракаў...
Напэўна, часта сняць часы ліхія
Аднаўленыя Будапешт, Сафія,
І прыгажуні Прага й Браціслава —
І зноў салдату-вызваленцу — слава!
Тады салдату выпала на долю
Любой цаной вярнуць Еўропе волю...

Жывуць так вольна, без ярма на шыі
І ў Беларусі нашай, і ў Расіі,
Ва ўсёй Еўропе і за акіянам —
Паклон за гэта нізкі ветэранам,
Хто без вагання смерці выклік
кінуў,
І памяць тым, хто на вайне загінуў.

***

Дзень Перамогі крочыць па Зямлі,
Наперадзе — франтавікі сівыя.
І побач з ветэранамі ішлі
Штогод сябры іх, вечна маладыя.

І сёння побач з імі тыя тут,
Каго спаліў вайны смяротны подых,
І сёння кветкі й велічны салют
У гонар іхні — і жывых, і мёртвых.

У гонар тых падлеткаў і жанчын,
Хто ў тыле фронту ладзілі падмогу.
Усе тут сёння крочаць — як адзін,
Хто набліжаў святую Перамогу.

Тут сёння, ў гэтым шэсці ўвесь
Сусвет. —
Канцлагераў шматлікія ахвяры,
Тут спаленыя крылы светлых мэт,
Забітыя душы юнацкай мары.

У шэсці тут — сумленне ўсіх краін —
Даніна незабыўнай той нягодзе,
І той, апошні, чалавецтва сын,
І страта страт... у невядомым годзе.

Ідуць рады былых франтавікоў,
Хоць засталося іх не вельмі многа.
З паклонам чалавецтва з двух бакоў,
За імі — бессмяротная дарога.

## Станіслаў ВАЛОДЗЬКА



## Палын і медуніца

Мне горка і салодка,
Так горка і салодка,
Як вецер палыном парой дыхне.
І ён жа, гэты вецер,
Айчыны добры вецер,
Абдасць мядовым водарам мяне.

Мне зноў дзяцінства сніцца,
Мне зноў юнацтва сніцца,
Мой родны край, што ў сэрцы я збярог.
Палын і медуніца,
Палын і медуніца
Стаяць, як брат з сястрыцай, ля дарог.

Мне радасна і сумна,
Так радасна і сумна
Ў начное неба чыстае глядзець.
Мігае Палын-зорка,
Мігае Палын-зорка,
І медуніца ярка там цвіце.

Мне соладка і горка,
Так соладка і горка,
Калі ў мой сон загляне родны дом.
У твар мне добры вецер,
Айчыны добры вецер
Павее медуніцай з палыном.

## Ракуцёўскае лета

Зноў паклікала нас
Ракуцёўскае лета,
Дзе нас камень сустрэў
Стромкі, як кіпарыс.
Ён не можа маўчаць,
Камень праведны гэты, —
Нам гаворыць аб той
Незабыўнай пары.

Зноў паклікала нас
Ракуцёўскае лета,
Дзе Максімаў дамок
Ўдаль глядзіць з-пад рукі,
І сабрала ўсіх нас
У кутку запаведным,
Быццам краскі ў букет,
Бы ў снапок каласкі.

Разышлося паўсюль
Ракуцёўскае лета,
Разлілося віном,
Расцяклося, як мёд.
Нам ізноў ад яго
Круглы год будзе светла,
Будзе сэрцы яно
Саграваць і зімой.

Песня гэтага лета
Агарнула планету.
Песню гэтага лета
Будуць слухаць вякі.
Ў гэтай песні звініць
І крынічка паэта,
І нябёсы звіняць,
Як Максіма радкі...

## З блакаднікамі Ленінграда

З блакаднікамі Ленінграда
Зноў Дзень прарыву адзначаю:
Не знаўшы дзён галодных,
рад я
Пірог, пячэнне есці з чаем.

І чаем тым прагнаць хачу я
Камяк пякучы, даўкі ў горле,
Калі з іх вуснаў словы чую
Аб страшным голадзе, аб горы.

Я ім заглядваю у вочы, —
Ім столькі ўбачыць давялося
Смярцей, калі бялелі ночы,
І, як ваўчыцай, выла восень.

Хай не чарсцвеюць нашы сэрцы
І ў свята мірнае, і ў будзень,
І, як блакадны хлеб, мізэрным
Няхай духоўны хлеб не будзе!..

## Серафіма БЕСТАВА



## Праклён вайне

Пад канцлагерную страхою,
Нас траіх, акрапіўшы слязою,
Кожнай ночкай да самага ранку
Наша любая мамачка-мамка
Нам прычытвала калыханкі:
«Спіце, спіце, мае дзіцяткі,
Хутка вернемся ў родную хатку,
Потым прыйдзе з вайны ваш татка,
Зажывём у любові, дастатку...»
І па сёння тугу вецер носіць,
Што нічога з тых слоў не збылося.
Нас чакалі дрэвы ля хаткі,
Не вярнуўся з вайны наш татка.
Ўсё забраў фашыст без астатку,
Не пакінуў нават зярнятка.
Мы спазналі голад, галечу,
Пры ўспамінах сэрца трапеча...
А ўспаміны плывуць і плывуць:
Як на хлеб мы сушылі траву,
Не было нам у што апрануцца...
Хіба можна забыць гэта, людцы?
Пралілі мы слязу не адну,
Праклянiце, людзі, вайну.

## Ніхто не забыты

Твар у твар вы стрэліся з вайною,
У бой пайшлі ад парогаў родных.
Бо жылі ўсе думкай адною —
Каб Радзіма была свабоднай.
Хто пад Брэстам, а хто пад Масквою,
Хто на Волзе, а хто ля Дзвіны.
Пагасілі сваёй крывёю
Злое полымя лютай вайны.
Каб устаць ім з зямлі шматпакутнай,
Можна б столькі пабачыць, пачуць,
Як грымяць у іх гонар салюты,
І як песні аб іх пяюць.
Колькі год з той пары ні мінецца,
Не забыць векапомныя дні
Хай заўжды ў нашы стукае сэрцы
Попел тых, хто згарэў у агні.

## Брацкія магілы

Кладуцца з кветак вянкі
У падножжа брацкай магілы.
Будуць помніць пра вас вякі,
Вы сабою нас засланілі.
Вы жыцця не мелі ў запас,
Вы былі яшчэ маладымі,
Аддалі вы жыцці за нас,
Каб мы сёння жылі, тварылі.
І хоць вораг меў многа сіл,
Не паставіў ён вас на калені.
Цішынёю брацкіх магіл
Правяраць нам сваё сумленне.

## Незабыўнае

Па вясне белапенныя вішні
Роснай квеценню хаты атуляць...
Горкай долі ў вайну залішне
Паспыталі нашы матулі.
І з гадамі ім не забыцца:
Дымам чорным засцелена неба.
Дзеці тузаюць за спадніцы
І скрозь плач: «Хочам хлеба».
На збялелых шчочках слязінкі,
Глянуць — сэрца ад болю рвецца...
І ніводнай у хаце скарынкі,
І ні зерня ў падмецеciv клеці.
Не, ніколі ім не забыцца,
Тое, чорнае, неба над восень,
Як дамоў чакалі кармільцаў —
Паштальён ім бяду прыносіў.

## Плача вярба

Ах, як ластаўка нізка лятае,
Хоць вазьмі ды падстаў далонь.
Ў грозны час за цябе, мой краю,
Татка мой пайшоў у агонь,
Ў паднябессі жаўрук лунае.
Цішыня, над палеткам плыві!
Татка мой бараніў цябе, краю,
Да апошняй кроплі крыві.
Плачуць вербы над ціхай ракою,
Сведкі тых трагічных падзей.
Парадненыя мы са слязою.
Боль рукамі не развядзеш.

# Джавані ВЕРГА

# Каханка Грамінні



**Верга Джавані (1840 — 1922) — італьянскі пісьменнік, заснавальнік верызму (ад італ. vero — «сапраўдны», «праўдзівы») — рэалістычнага кірунку з пэўнымі натуралістычнымі тэндэнцыямі. Аўтар зборнікаў навел «Жыццё палёў» (1880), «Сельскія навелы» (1883), раманаў «Карбанарыі ў гарах» (1861 — 1862), «Грэшніца» (1866), «Сям'я Малавольяў» (1881), «Майстар дон Джэзуальда» (1889) і інш. Яго творы экранізаваны такімі італьянскімі рэжысёрамі, як Л. Вісконці, Ф. Дзэфірэлі і інш. Прапанаваная чытачам навела са зборніка «Жыццё палёў» цікавая таксама прадмовай, у якой Дж. Верга выкладае асноўныя прынцыпы паэтыкі верызму. У 1969 годзе на экраны выйшаў фільм «Каханка Грамінні» (рэжысёр К. Ліццані).**

*Да Сальватарэ Фарына*[1]

Дарагі Фарына, вось табе не апавяданне, а толькі яго накід. Ён чагосьці варты ўжо таму, што вельмі кароткі і гістарычны — гэта чалавечы дакумент, як цяпер кажуць. Спадзяюся, ён будзе цікавы для цябе і для ўсіх тых, хто вывучае вялікую кнігу чалавечага сэрца.

Я табе яго перадаю ў тым выглядзе, у якім сабраў на палявых сцежках, амаль тымі ж самымі простымі і маляўнічымі словамі народнага аповеду. На самай справе, ты ўпэўнішся, што лепей сутыкнуцца твар у твар з фактам, голым і відавочным, не шукаючы яго між радкоў кнігі праз лупу пісьменніка. Тое, што здараецца з чалавекам, заўсёды будзе прымушаць думаць; заўжды будзе пераканаўчым з-за таго, што адбылося, з-за сапраўдных слёз, пачуццяў, страсцей, зведаных на ўласнай скуры. Таямнічы працэс, з-за якога страсці блытаюцца, пераплятаюцца, выспяваюць, разгортваюцца на сваім патаемным шляху і ў сваіх напрамках, якія часцяком могуць здавацца супярэчлівымі, яшчэ доўгі час будзе вызначаць вялікую прыцягальнасць псіхалагічнага феномена, які складае сюжэт апавядання і які сучасныя аналітыкі імкнуцца прасачыць з навуковай дакладнасцю. У тым, пра што сёння раскажу, я вызначу зыходную кропку і пункт прызначэння; гэтага табе будзе дастаткова, а некалі, можа, будзе дастаткова і астатнім.

У мастацкім працэсе, які даў нам гэтулькі слынных твораў, мы выкарыстоўваем іншы метад, больш пільны і інтымны, ахвяруем эфектам развязкі і аддаём перавагу неабходнаму лагічнаму развіццю страсцей і падзей. Развязка становіцца менш нечаканай, магчыма, ужо не такой драматычнай, але не менш фатальнай. Мы праяўляем больш сціпласці, нават пакорлівасці, але паказ гэтай незразумелай сувязі паміж прычынамі і вынікамі, напэўна, будзе не менш карысны мастацтву будучыні. Ці дасягнём такой дасканаласці ў вывучэнні страсцей, пры якой бы не спатрэбілася працягваць вывучэнне ўнутранага свету чалавека? Ці вывучэнне чалавечага сэрца — плён новага мастацтва — настолькі разаўе ўсе якасці ўяўлення, што ў будучыні толькі асобныя яшчэ не напісаныя раманы стануць выдатнымі з'явамі?

Калі адзінства і цэльнасць кожнай часткі рамана будуць настолькі поўнымі, што працэс яго стварэння, як і само разгортванне чалавечых страсцей, застанецца тайнай, гармонія форм будзе настолькі дасканалай, шчырасць адлюстравання рэальнасці — настолькі відавочнай, метад выкладу і доказы — настолькі неабходнымі, што рука мастака застанецца абсалютна незаўважанай, тады раман будзе ўяўляць сабою адбітак рэальных падзей. Мастацкі твор будзе здавацца напісаным сам па сабе, нібыта ён выспеў і ўзнік натуральна, як рэальная падзея, не захоўваючы ніводнай кропкі дачынення са сваім аўтарам, ніводнай плямы першароднага граху.

Нямала гадоў мінула з той пары, калі там, уздоўж ракі Сімэта, гналіся за разбойнікам — калі не памыляюся, нейкім Грамінням2. Імя праклятае, як і расліна з такой самай назваю. Па ўсёй правінцыі ён сваімі справамі пакідаў за сабою жах. Карабінеры і салдаты, пешшу і на конях, ганяліся за ім два месяцы і ніяк не маглі абламаць яму кіпцюры. Ён адзін варты быў дзесяцёх. А злачыннае пустазелле пагражала, што разрасцецца. Між тым набліжаўся час жніва. Увесь гадавы ўраджай быў у руках Госпада, таму што гаспадары, баючыся Грамінні, выйсці з вёскі не адважваліся — толькі скардзіліся. Прэфект, склікаўшы ўсіх сіньёраў з квестуры, карабінераў, апалчэнцаў, без адкладу выслаў дазоры, атрады, паставіў вартавых у кожны роў і за кожную агароджу: на Грамінню палявалі як на шкоднага звера па ўсёй правінцыі, днём і ноччу, сіламі пешых і коннікаў, з дапамогаю тэлеграфу. Ды разбойнік выслізваў з рук, а калі яму пачыналі наступаць на пяткі, адказваў стральбою. На палях і ў вёсках, у дварах і харчэўнях — паўсюль, дзе збіраўся люд, — толькі і размоў было, што пра Грамінню, пра гэтае безупыннае паляванне і яго адчайныя ўцёкі. Коні карабінераў падалі ад смяротнай стомы, салдаты валіліся з ног і адпачывалі ў хлявах на зямлі, вартавыя спалі стоячы; а ён, Грамінія, не стамляўся, не спаў, увесь час адбіваўся, караскаўся па гарах, поўзаў па палетках, прадзіраўся на карачках скрозь гушчары кактусаў, вышмыгваў, як воўк,па перасохлых руслах горных ручаёў. На дзвесце міль вакол распаўсюдзіліся легенды пра яго подзвігі, адвагу і сілу, пра гэтае шалёнае змаганне. Ён адзін, нягледзячы на стому, голад і смагу, супрацьстаяў тысячы людзей на бяскрайніх, выпаленых чэрвеньскім сонцам абшарах.

Пэппа, адна з самых прыгожых дзяўчат Лікодзіі, павінна была ў той час выйсці замуж за Фіну, празванага Свечкаю, які меў кавалак зямлі пад сонцам і гнядога мула ў хляве. Гэта быў юнак моцны і прыгожы як сонца, і харугву Святой Маргарыты ён заўжды насіў быццам нешта лёгкае, не згінаючы спіны.

Маці Пэппы плакала ад радасці, што такая вялікая ўдача выпала дачцэ, і ўвесь свой час праводзіла, складаючы і перакладаючы ў куфары пасаг дачкі-нявесты: ўсё з тонкага белага палатна, як у каралевы, залатыя завушніцы, якія звісалі да самых плеч, і пярсцёнкі на дзесяць пальцаў рук — золата у яе было не менш, чым у Святой Маргарыты. Маладыя павінны былі ўзяць шлюб якраз у дзень Святой Маргарыты, які святкуецца ў чэрвені, пасля сенакосу. Кожны вечар Свечка, вяртаючыся з поля, прывязваў мула каля дома Пэппы і заходзіў да яе расказаць, што пасевы цудоўныя, і калі Грамінія не падпаліць іх, то ў яго засеку не хопіць, каб змясціць увесь ураджай збожжа, і што ён не можа дачакацца, калі прывязе дахаты нявесту на гнядым муле. Але Пэппа аднойчы сказала яму:

— Пакіньце ў спакоі свайго гнядога мула! Я не хачу выходзіць замуж.

Уявіце сабе, які гэта быў скандал! Старая рвала на сабе валасы, Свечка аслупянеў, разявіўшы рот.

Ні з таго ні з сяго Пэппа загарэлася страсцю да Грамінні, нават не ведаючы яго:

— Вось гэта мужчына!

— Ды што ты пра яго ведаеш?! Дзе ты яго бачыла?

Дарэмна. Пэппа нават не адказвала. Проста апускала галаву з выразам упартасці на твары, не шкадуючы маці. А тая, нібы розум страціўшы, хадзіла з распушчанымі сівымі валасамі і такім сваім выглядам нагадвала ведзьму.

— Ой божачкі! Гэты чорт дабраўся ажно сюды і зачараваў маю дачушку!

Суседкі, якія зайздросцілі Пэппе з-за квітнеючых пасеваў, гнядога мула і прыгожага хлопца, які насіў харугву Святой Маргарыты, не згінаючы спіны, цяпер хадзілі і расказвалі розныя непрыстойныя гісторыі: нібыта Грамінія прыходзіў да дзяўчыны па начах на кухню і быццам бы яны бачылі, як ён хаваўся пад яе ложкам. Бедная маці падтрымлівала агеньчык у лампадцы за супакой душ у чысцілішчы, у хату да Пэппы прыходзіў нават святар, каб дакрануцца да яе сэрца епітрахіллю і выгнаць адтуль нячысціка Грамінню, які завалодаў дзявочым сэрцам.

Хоць Пэппа ўвесь час казала, што ў вочы не бачыла таго чалавека, аднак думкамі яна была заўсёды з ім: сніла яго па начах, а раніцамі ўставала з такімі ж, як у яго, засмяглымі вуснамі.

Каб дачка не чула больш размоў пра Грамінню, маці зачыніла яе ў хаце, а ўсе шчыліны ў дзвярах пазавешвала абразамі святых.

Пэппа, падслухваючы з-за абразоў святых усё, што расказвалі на вуліцы, то бляднела, то чырванела так, нібыта сам д'ябал дзьмуў ёй пякельным полымем у твар.

Нарэшце, яна пачула, што Грамінню акружылі ў палагонскіх гушчарах кактусаў.

«Ён адстрэльваўся дзве гадзіны! — казалі. — Забіты адзін карабінер, і яшчэ тры салдаты паранены. У яго выпусцілі такі град куль, што на гэты раз выявілася велізарная лужына крыві на тым месцы, дзе ён быў».

Уначы Пэппа перахрысцілася перад ложкам маці і ўцякла праз акно.

Абарваны, скрываўлены, бледны ад таго, што не еў два дні, а таксама ад гарачкі, Грамінія са сваім карабінам хаваўся якраз у гушчарах кактусаў Палагоніі — яго не маглі выгнаць з нары.

Убачыўшы, як Пэппа ў дасветным прыцемку рашуча накіроўваецца да яго праз густы хмызняк, ён на нейкі момант задумаўся, страляць ці не.

— Што табе трэба тут? — запытаў. — Чаго прысунулася?

— Дзяўчына маўчала, пільна гледзячы на яго.

— Ідзі адсюль! — сказаў Грамінія. — Прэч, пакуль табе Хрыстос дапамагае!

— Вярнуцца дахаты я ўжо не магу, — паведаміла Пэппа, — на дарозе поўна салдат.

— А хіба гэта мая справа? Ідзі адсюль!

Ён узяў яе на прыцэл карабіна. Паколькі дзяўчына не рушыла з месца, Грамінія, раз'юшаны, кінуўся на яе з кулакамі:

— Што табе трэба?.. Ты вар'ятка?.. Ці шпіёнка?

— Не, — адказала яна. — Не!

— Што ж, калі так, схадзі і прынясі мне буталь вады. Там, унізе, горны ручай.

Пэппа моўчкі пайшла.Калі пачуліся стрэлы, Грамінія здзекліва рагатнуў і прамовіў:

— А гэта ж прызначалася мне.

Праз кароткі час ён убачыў, як дзяўчына, абдзёртая і акрываўленая, вярталася з бутлем у руцэ. Змучаны смагай, Грамінія кінуўся да яе і доўга, не адрываючыся, піў, а потым запытаў:

— Хочаш пайсці са мною?

— Так, — кіўнула яна галавою, ні на міг не задумаўшыся, — хачу.

І пайшла Пэппа за ім па далінах і горах. Галодная, амаль голая, хадзіла яна здабываць яму буталь вады ці лусту хлеба, рызыкуючы жыццём. Калі ж вярталася пад кулямі ні з чым, каханы разбойнік, якога даймалі голад і смага, лупцаваў яе.

Неяк уначы, калі ясна свяціў месяц, з даліны данёсся брэх сабак. Грамінія ўсхапіўся і загадаў:

— Заставайся тут, а то я цябе, далібог, заб'ю!

Дзяўчына прыхілілася да скалы, а ён кінуўся бегчы праз гушчар. Ды хітрыя салдаты павыходзілі насустрач яму з таго якраз боку.

— Стой! Стой!

Засвісталі кулі. Пэппа, якая баялася толькі за Грамінню, убачыла, што ён вяртаецца паранены, ледзь сунучы ногі, але раз за разам падаючы на калені, каб перазарадзіць карабін.

— Усё скончана! — прамовіў ён. — Цяпер мяне схопяць.

На губах у яго была пена, а вочы, нібы ў ваўка, гарэлі.

Як толькі ён снапом паваліўся на сухое галлё, салдаты і карабінеры гурбою кінуліся на яго.

Ужо назаўтра абарванага і скрываўленага разбойніка вазілі па вуліцах мястэчка. Народ збіраўся ў натоўпы, каб паглядзець на Грамінню. Яго каханка была таксама закавана ў кайданы як злачынка. Тая, у якой было гэтулькі ж золата, колькі ў Святой Маргарыты!

Няшчасная маці Пэппы вымушана была прадаць усё рэчы з тонкага бялюткага палатна з пасагу, залатыя завушніцы і пярсцёнкі на дзесяць пальцаў рук, каб аплаціць сваёй дачцэ адвакатаў і забраць яе — гаротную, хворую, зняслаўленую і з сынам Грамінні на шыі — дадому. Пасля гэтага Пэппы на вуліцы не бачна было. Яна жыла, забіўшыся ў куток на кухні, быццам дзікі звер, і выйшла адтуль толькі тады, калі маці ў пакутах памерла.

Пэппа прадала дом і ўначы, падкінуўшы чужым людзям дзіця, пайшла з вёскі, нават не азірнуўшыся. Пакіравала яна ў горад, дзе, як казалі, знаходзіўся ў турме Грамінія. А там хадзіла вакол вялікага змрочнага будынка, гледзячы на краты і спрабуючы вызначыць, за якімі ж сядзіць ён. Ахоўнікі не пускалі жанчыну, асыпалі яе абразамі і праганялі прэч.

Нарэшце Пэппа даведалася, што яе каханага ў турме ўжо няма. Яго, у кайданах і з торбай на шыі, павезлі за мора. Што ёй было рабіць? Яна засталася там, куды прыйшла. Стала зарабляць на хлеб, прыслугоўваючы салдатам і турэмшчыкам, сама зрабілася як бы часткаю гэтай вялізнай, змрочнай і маўклівай установы. У адносінах да карабінераў, якія злавілі Грамінню, жанчына выяўляла нейкую павbooжлівую ласку. Відаць, гэта было захапленне грубай сілай. Пэппа часта прыходзіла ў казарму — прыбірала пакоі і чысціла боты, за што атрымала мянушку казарменная Ануча. Толькі калі карабінеры збіраліся ў нейкую небяспечную экспедыцыю і яна бачыла, як тыя заражаюць зброю, то бляднела і задумвалася пра Грамінню.

**Пераклад з італьянскай мовы Уладзіміра ЧАРОТЫ**

[1]Сальватарэ Фарына (1846 — 1918) — італьянскі пісьменнік, журналіст і рэдактар часопіса «Рывіста мініма», у якім твор упершыню быў надрукаваны ў 1880 годзе.

[2]Грамінія (з італ.) — пырнік.

# «Наогул паэзіі тут не чытаюць...»


Малюнак Алесі Ісы

У творчасці Рыгора Барадуліна ёсць усё, што толькі здаралася ў беларускай паэзіі. Вайна, Чарнобыль, любоў да вёскі, роздумы пра вечнасць і ўласную чалавечую сталасць, народны гумар, водгулле матчыных песняў. А яшчэ духоўныя вершы, дзе побач са словамі «мама» і «мова» з'яўляецца трэцяе важнае слова — «Бог». Роўныя катрэны, верлібры, «рваны» радок з перагукамі слоў. Рэалістычныя дэталі, «за якімі праглядвалася сама эпоха», і пакручастыя метафары, якія разблытваюцца з думкамі пра «Маладняк» і сучасных вынаходлівых трубачоў. Словы з роднай Вушаччыны — «хатнія словы», якія, паводле паэта, трэба «шліфаваць, як той бурштын, каб здзіўлялі яны ўсіх сваёй непаўторнай самабытнасцю». А побач уласныя наватворы — «няпроста і распазнаць, дзе народнае, дзе барадулінскае, таленавіта імправізаванае».

Паэзія Рыгора Барадуліна — гэта радасць вольнага, нічым не абмежаванага пошуку вобразаў і слоўных сугуччаў. «Чуйнасць паэта, яго слых неймаверна вытанчаныя, яны не могуць, напаткнуўшыся на вольнае слова ў радку, не перасмакаваць яго адценняў, не зачапіцца за этымалагічныя карэнні», — зазначаў Мікола Арочка. Крытыкі ў Барадуліна, вядома, былі: часам паэту бракавала асцярожнага недаверу да сябе, да сваіх радкоў. Не кожная метафара атрымлівацца ўдалай, і цяжка сказаць, чаму адно прыпадабненне дазваляе па-іншаму ўбачыць нейкую рэч, а другое выклікае непаразуменне. Суб'ектыўнасць чытацкага ўспрымання заўсёды ўплывае на ацэнку твора — і тое, што аднаму крытыку ці літаратуразнаўцу падаецца безгустоўнасцю, для іншага можа быць «вяршыннай з'явай».

*У тэлефоннай кабіне*
*На пупавіне шнура*
*Трубка вісіць, як эмбрыён,*
— аднаго ўразіць, другога — не.

Але між сотняў вершаў Рыгора Барадуліна — ад зборніка «Маладзік над стэпам» (1959) да твораў апошніх гадоў жыцця — кожны знойдзе нешта, сугучнае сабе. Паэзія гэтага аўтара — не толькі фіксацыя асабіста значнага, але і зварот да суразмоўцы, якога трэба здзівіць, пераканаць, пазнаёміць з нечым цікавым ці вельмі важным. Праўда, сітуацыю з чытачамі (у родных Ушачах і шырэй) паэт бачыў абсалютна рэалістычна:

*Са мной заўсёды вітаюцца*
*ветліва.*
*І нават, што вершы пішу я,*
*многія ведаюць.*
*Наогул паэзіі тут не чытаюць —*
*Ані класічнай, ані навейшай,*
*Хоць, праўда, бывае, пытаюць:*
*— Ці многа плоцяць за вершы?*

Быць чытачом Рыгора Барадуліна прыемна. Своеасаблівая аптымістычнасць яго таленту — першае, на што звярнуў увагу Міхась Стральцоў у прадмове да двухтомнага «Выбранага»: «як дабратворны цуд, як недарэмны абяцанак злагады і суцяшэння — даспадобы нам талент ураўнаважаны і светлы, талент вынаходлівы і дзейсны, што адкрывае нам нанова кожны раз найвышэйшую каштоўнасць жыцця самога па сабе». Нават калі паэт згадвае трагедыю вайны, непазбежнасць смерці, адвечныя праблемы самасвядомасці і мовы, адчуваецца, што за гэтым ёсць іншае — ёсць будучыня, ёсць нешта светлае і высокае. І гэта не сустрэтая дзесяцігадовым хлапчуком Перамога, не цудоўныя перспектывы камуністычнага грамадства, а ўнутранае перакананне, што зямное жыццё — не адзіная дадзенасць чалавеку. Кожны, хто мае сялян-сваякоў, ведае, што духоўнасць і вера ў Бога не зніклі нават у савецкі час, і так ці інакш гэта прабівалася ў вершах Барадуліна, напісаных на пачатку творчага шляху:

*Калі разбіралі царкву,*
*бацька, ад пылу шэры,*
*навазіў паўцагелкаў,*
*а потым з іх склалі печку.*
*Відаць, усявышні зло затаіў,*
*бо нашу хату спалілі першую,*
*а гліне святой абгарэць*
*давялося яшчэ раз.*

Духоўная паэзія Рыгора Барадуліна пачалася як мінімум «Радкамі дарог» — з вершамі «Крыпта», «Баянская царква», «На вышыні ўзнесенасці», «Апошняя вячэра» і інш. У параўнанні з кнігай «Anima» (2011) у гэтых творах больш няўрымслівасці і свабоды, але Міланскі сабор ужо ўздымаецца «над тленам, над нікчэмнай марнатой» і адорвае паэта крыламі радасці. Паводле М. Арочкі, ад вершаў Барадуліна «застаецца ў душы, нібы светлы адбітак, адчуванне разнастайна шматгалоснага, багатага на фарбы і пачуцці жыцця, у якім хочацца дасканаліць сваю духоўнасць». Кніга самых глыбокіх і бездакорных твораў Рыгора Барадуліна — у двух, а можа, і трох тамах — павінна была б ужо пакрысе рыхтавацца да друку, бо абавязкова знойдзе ўдзячнага чытача.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Яго апошнія радкі

Неба паэзіі Рыгора Барадуліна і недасяжнае, і адначасова блізкае. Яго верш пазнаеш па адным радку, бо ў ім сваё, адметнае, непадобнае, беларускае гучанне. Залацінкі свайго слова паэт здабываў з самых глыбіняў народнай мудрасці, тут жа па-майстэрску агранькоўваў, шліфаваў, даваў яму зззянне і сапраўднае гучанне.

Мы, крыху маладзейшыя ад Р. Барадуліна, ішлі ў літаратуру з яго святым наказам: «Трэба дома бываць часцей, трэба дома бываць не госцем». Насуперак сцвярджэнням старых эпітафій ніколі не быў і сам ён на гэтай зямлі толькі госцем, а пачуваўся шчырым руплўцам, шукальнікам і здабытчыкам, сапраўдным творцам.

Скульптару цяжка бывае, калі ён высякае постаць вялікага паэта, бо заўсёды ў адной глыбе паўстае і сама эпоха, той час, у якім ён жыў і тварыў. Эпоху не адсячэш ад плячэй паэта, бо яна сама — яго плечы.

Яго і не ўявіш інакш, як урэзаным у час, у дзеі часу, узлёты і падзенні, набыткі і страты. Усё гэта мы і бачым у творах Рыгора Барадуліна. У нашай літаратуры ён — постаць адметная.

Адну са сваіх кніг паэт назваў «Рунець, красаваць, наліваца». Гэтых трох стадый выспявання коласа ён жадаў і слову. Сам жа на паэтычнай ніве красаваў, але ніколі не красаваўся.

Я пасябраваў з Рыгорам Іванавічам, калі, адслужыўшы ў войску, працаваў на Беларускім радыё. Сяброўства пасля мацавалася сумеснымі дарогамі. У адным з артыкулаў паэт згадвае, як мы з ім некалі суправаджалі ўкраінскіх гасцей: «...суправаджалі, я — паэтку, а Казімір — аж трох сясцёр спявачак». Тады я жартаваў, што ў маіх трох спявачак тры валізкі з уборамі былі значна лягчэйшымі, чым адна ягонай паэткі. Вагу вершаў мы, вядома ж, не ўлічвалі. Паэт у жыцці быў і надта вясёлым чалавекам. Вершаваныя жарты, эпіграмы сыпаліся з яго, як гарох з добрага меха. Мне даводзілася чуць іх з вуснаў незнаёмых людзей і далёка за межамі Беларусі. А сэрца паэта, тым не менш, нагадвала сапраўднае болесховішча, бо яму балела за ўсё на свеце — і за самае малое, і за самае вялікае.

Радок паэта часта абрываецца зусім нечакана. Так здарылася і ў яго. Але калі рвецца струна, гучанне яшчэ працягваецца. І тое, што прамоўлена сапраўдным паэтам, заўсёды падхопплівае памяць нашчадкаў. У гэтым нас пераконвае само жыццё. А сёння ў нас ёсць магчымасць прачытаць апошнія радкі незабыўнага Рыгора Барадуліна, якому б у гэтыя дні споўнілася восемдзесят.

**Казімір КАМЕЙША**

**Рыгор БАРАДУЛІН**

## Не жадаў

*Жывец,*
*Як золата важыць, —*
*Казалі вушацкія*
*Пра багача.*
*Бязьмен не жадаў*
*Шкадаваць пляча.*
*Каб кленчылі ёй,*
*Прымушала нажыць.*

*Дазволіла доля мне*
*Важыць ліха.*
*Ад марнасці ціха*
*Ўцякае пыха...*

9.1.2014

## Жыве...

*Сцежка тупаткая*
*Руху не ў галаве.*
*Пакуль уцякае, і*
*Кола жыве...*

20.1.2014

## Існасці

### I. Зруш скруш!

*На крушні чаму ж*
*Рух настрою*
*Шукае душа?*
*Стомлены лес —*
*Муж.*
*Стомлены лёс —*
*Ляўша...*

5.2.2014

### II. Прыйшоў...

*Жыццю перад смерцю*
*Ў рудым канверце*
*Ліст прыйшоў*
*Ад прымаразкаў...*

2.11.2014

### III. Пяты...

*Лічыць цягнік*
*Потайна ў цішыні,*
*Калі гэта*
*Скончацца шпалы.*
*Пра пяты палец*
*У застольніка на далані*
*Мроіць відэлец чатырохпалы...*

31.1.2014

## й

*Кручча карча рэбрае,*
*Ў балючае святло*
*Смутак свой*
*Загарнуць паспела.*
*І слухае,*
*Як плача прыцьмела*
*Ўсё, што наканаваннем было.*
*І поўня,*
*Як сляза начы,*
*Дрыжыць*
*Цень у прадонні цягнучы.*

20.11.2014

## Мальба

*Неба — трывалая столь.*
*Марна старaецца люць.*
*Госпад!*
*Ачалавеч мой боль,*
*Свойскі мой страх збязлюдзь!*

22.11.2014

## Размах крыла

Ганаду Чарказяну

*Размах крыла арла*
*Размераны на мрою.*
*Нясе стралу святла*
*Даверыцца настрою.*
*Пакуль ляціць арол*
*Усё жыве, як трэба.*
*Лучамі ўвіты дол*
*Кунежыць зоры неба.*

28.2.2014

# Дзённік Жыцця




*Перад чытачамі разгортваецца ўнутраны свет дзяўчынкі-падлетка, старшакласніцы, затым студэнткі, аспіранта акадэмічнага інстытута. У пэўным сэнсе можна казаць пра тыповыя рысы пакалення 1960-х, ды ўсё ж найперш кідаецца ў вочы якраз адметна-індывідуальнае, тое, што вызначае духоўны воблік аўтара дзённіка, здольнай мысліць і адчуваць неардынарна…*

**Да юбілейнай даты паэтэса і літаратуразнавец, доктар філалагічных навук, прафесар Галіна Тварановіч падышла з немалым здабыткам. Неардынарная асабовасць аўтара раскрываецца ў нядаўна выдадзенай кнізе «Пайсці, каб вярнуцца» — дзённіку, які вёўся цягам значнага часу.**

Нездарма такой папулярнай і запатрабаванай стала ў сучаснага чытача літаратура non-fiction. Гэты тэрмін ахоплівае мноства жанравых разнавіднасцей, у тым ліку — дзённікі, сістэматычныя запісы творчай асобы, дзе выяўляецца непасрэднае судакрананне з рэчаіснасцю. Тут проза набліжаецца да лірыкі як эмацыянальнага перажывання адносінаў са светам. Цалкам слушна, напрыклад, запісы Янкі Брыля залічваюцца менавіта да лірычнай прозы. З другога боку, лірыка — гэта не што іншае, як своеасаблівы дзённік духоўнага развіцця асобы, занатаваныя станы эмацыянальных узрушэнняў, інтэлектуальных падсумаванняў, духоўных празарэнняў.

У кнізе дзённікавых запісаў Г. Тварановіч пры захаванні дакументальна-фактаграфічнай асновы аповеду на першы план выходзяць пачуццёвая ўзрушанасць, звернутасць да рэфлексіі і самааналізу, імкненне да абсалютнай шчырасці з самой сабой. Гэтыя якасці, несумненна, характарызуюць натуру паэтычную, нераўнадушную да ўсяго, што адбываецца, чуйную да кожнага зруху душы. Усе запісы ў кнізе дакладна датаваныя і размеркаваныя па трох раздзелах, якія адпавядаюць тром перыядам жыцця аўтара: «З запісаў вучаніцы», «З запісаў студэнткі», «З запісаў аспіранткі». Такім чынам, у кнізе выразна прасочваецца адчуванне часу, прытым асабісты, біяграфічны час уступае ва ўзаемадзеянне з часам гістарычным, усеагульным. З часавай пазнакай на дзённікавых тэкстах, з дакладнай перадачай светаадчування эпохі звязана пазіцыя аўтара як укладальніка кнігі. Напісанае калісьці ўспрымаецца з пэўнай дыстанцыі. Тут выявілася гранічная шчырасць аўтара, нежаданне якімсьці чынам прыўкрасіць або змяніць, падкарэкціраваць сябе ў мінулым. Паслядоўнасць рэалізацыі гэтага прынцыпу на працягу ўсёй кнігі спараджае давер да жыццёвай і творчай пазіцыі аўтара, яго разумення праўды жыцця і праўды мастацтва.

Перад чытачамі разгортваецца верагодная карціна таго, што адбываецца ва ўнутраным свеце дзяўчынкі-падлетка, старшакласніцы, затым студэнткі, аспіранта акадэмічнага інстытута. У нейкім сэнсе можна казаць пра пэўныя тыповыя рысы, характэрныя для пакалення, фарміраванне самасвядомасці якога прыпала на дынамічныя шасцідзясятыя гады. Ды ўсё ж найперш кідаецца ў вочы якраз адметна-індывідуальнае, тое, што вызначае духоўны воблік аўтара дзённіка як непадобнай да сваіх равеснікаў асобы, здольнай мысліць і адчуваць неардынарна, займацца самааналізам.

Спавядальнасць — скразны матыў, характэрная адметнасць кнігі. Вызначальны момант гэтай споведзі — жаданне аўтара разабрацца ў сабе. З дзённікам аўтар размаўляе як з жывой істотай, нават больш — з тым, каму давяраюць самае запаветнае (12 ліпеня 1969 года: «Хачу распачаць нарэшце сапраўдны дзённік. Шмат такога ўва мне ёсць і з мяне просіцца, пра што нельга сказаць каму б там ні было»). Хоць як жанр дзённік і разлічаны перш за ўсё на ўнутраны дыялог з самім сабой, ад шырокага свету людскіх узаемадачыненняў, ад свядомасцей іншых аўтар не адмяжоўвае. Калі разглядаць дзённік сапраўды як своеасаблівы літаратурны жанр, то варта адзначыць, што ён спрыяе раскрыццю творчага патэнцыялу літаратара, выпрацоўцы стылю, навыкаў пісьма. Дзённік даваў Г. Тварановіч магчымасць не толькі засяродзіцца на ўласных адчуваннях, але дзякуючы гэтаму ўсвядоміць вялікую прыцягальную сілу і выяўленчую моц. Яшчэ ў школьныя гады, калі вучаніца Дараганаўскай сярэдняй школы заявіла пра сябе як пра актыўнага і здольнага юнкара, яна пакіне ў дзённіку такі запіс: «Мне абавязкова трэба пісаць. Не змагу жыць, нічога не гаворачы людзям. Патрэба пісання ідзе знутры. Быццам у душы штосьці б'ецца крыламі і просіцца на волю. Такі стан прыходзіць нечакана. Псуецца настрой, нічога не робіцца, усё выпадае з рук, калі не вазьмуся за пяро і не «надрапаю» чаго-небудзь. А пішацца ж звычайна цяжка». Вельмі характэрныя радкі: тут і выяўленне неадольнай цягі да слоўнага мастацтва, і разуменне надзвычайнай цяжкасці гэтай справы.

На старонках першага раздзела кнігі выяўляюцца як адзнакі станаўлення творчай асобы, наіўная летуценнасць, рамантычная ўзнёсласць, так і не падзіцячы развітыя разважлівасць, мэтанакіраванасць. Сустрэнем у кнізе і такія кранальныя ў сваёй непасрэднасці наказы сабе самой: «Узялася за справу — даводзь яе да канца. Не крышы на аскепкі час. Вядома, будуць зрывы, абвалы, слёзы, горыч — без гэтага немагчыма. Ты ж вучышся ісці па жыцці».

Так, вучыцца «ісці па жыцці» — справа нялёгкая. Тым больш калі твая душа лёгка ранімая і ўсё ўзважваецца на шалях сумлення і высокіх ідэалаў. Аднак нізкі болевы парог — гэта не перашкода на шляху жыцця, хутчэй наадварот, асаблівa для паэта.

З першых старонак дзённіка выяўляе сваю прысутнасць паэзія — самавітым мастацкім светам, адметным стылем. Як і ў дзённікавай прозе, у вершах паэтэсы Г. Тварановіч мы адчуваем тую ж арганічную паяднанасць пачуццёвага з глыбокім роздумам над сутнасцю быцця, над месцам чалавека ў свеце і яго адносінамі да духоўных першаасноў.

Паэзію Г. Тварановіч варта вызначыць як творчасць філасофскую і духоўную, што спалучае ў сабе заглыбленасць ва ўнутраны свет з маліто́ўнай скіраванасцю да Боскай міласэрнасці і любові. Як паэтэса Г. Тварановіч ідзе тым жа шляхам сумненняў і ваганняў, надзей і здабыткаў, абрысы якога пазначаныя ў дзённіку. У паэзіі больш відавочнымі сталі якраз духоўныя здабыткі, паколькі фарміраванне паэтычнага свету творцы прыпала ўжо на сталыя гады: у 1996 годзе выйшла кніга паэзіі з характэрнай назвай — «Ускраек тысячагоддзя», і на самым гэтым ускраечку з'явілася кніга наступная, названая «Верасы Дараганава» (2000).

Дараганава — пасёлак на чыгуначным шляху між Асіповічамі і Старымі Дарогамі, на ўзбярэжжы Пцічы, — цэнтр прыцягнення, які абумоўлівае вяртанне паэтэсы да вытокаў. Дараганаву прысвечаны найбольш жывапісныя апісанні ў дзённіку. Істотна падкрэсліць, што родныя краявіды ўспрымаюцца ў неад'емнай спалучанасці з перажываннем аўтара асабістай экзістэнцыі: «Я нібы сабе незнаёмая, а свая, родная таму, што навокал...»

Першая паэтычная кніга Г. Тварановіч была прысвечана памяці маці, пра якую столькі прачулых слоў занатавана ў дзённіку. Туды, дзе апошні спачын дарагіх ёй людзей, дзе калісь выспельваліся шчырыя, узнёслыя юначыя думкі, паэтэса стараецца прыехаць штогод.

*Увосень на плёсах рачных*
*страсаюць сурова вятры*
*ускраек нябёс і зямлі —*
*жалудамі саспелымі.*
*Іх прагная плынь паглынае...*
*Іх ласкава зямелька прымае*
*ды карэньчыка рухам*
*аднойчы нябёсам вяртае...*

*Так лёсу людскога імгненні*
*знікаць у вірах паспяшаюць або*
*святлом у Сусвет прарастаюць...*

Дубы над рачной плынню сімвалізуюць нязменнасць быццёвага поступу; «святлом у Сусвет прарастаюць», імкнучыся да духоўнага ўзвышэння, памкненні, надзеі стваральныя. Штосьці з перабытага, што ўваходзіла ў плынь паўсядзённага існавання і яго асэнсавання, рассейваецца сярод жыццёвых прастораў, але істотнае сапраўды сягае нябёсаў.

Духоўны шлях, які прайшла Галіна Тварановіч — і разам з ёй яе лірычная гераіня — шлях няпросты, напоўнены пошукамі, сумненнямі, імкненнем да пераадолення абставін. Калі параўнаць наіўна-ўзнёслую школьніцу, якая шчыра выяўляла сваю адданасць распаўсюджаным на той час ідэалам сацыяльнага пераўтварэння, са сталай жанчынай-творцам, аўтарам мастацкіх твораў і навуковых прац, то гэты шлях прасочваецца надзвычай выразна. Аднак зноў звернем увагу на назву кнігі-дзённіка — «Пайсці, каб вярнуцца». Шлях сапраўды вельмі няпросты: не прадугледжвае адналінейнай адназначнасці. Вяртанне як адзін з асноўных момантаў светапогляднай канцэпцыі Г. Тварановіч — з'ява складаная. Ёю ахопліваецца і зварот да быццёвых асноў, да духоўнага прызвання чалавека і да тых, няхай і крыху наіўных, але сардэчных і шчырых у сваёй непасрэднасці першапачатковых крокаў па шляху духоўнага дасканалення. Гэта таксама і вяртанне да агульнаславянскіх каранёў, якое знайшло ўвасабленне ў літаратуразнаўчых, кампаратывістычна-славяназнаўчых працах вядомай даследчыцы.

**Яўген ГАРАДНІЦКІ**

# Наступная прэзентацыя — у Сарбоне!

**15 лютага ў межах XXII Мінскай міжнароднай выстаўкі-кірмашу адбылася прэзентацыя кнігі вядомага казахскага пісьменніка Немата Келімбетава «Лісты да сына», якая пабачыла свет у Выдавецкім доме «Звязда». У мінулым годзе таксама ў перакладзе на беларускую мову была выдадзена яго аповесць-маналог «Не хачу губляць надзею».**

За аўтабіяграфічны раман «Ніколі не здавайся» пісьменнік удастоены Міжнароднай прэміі ЮНЕСКА імя Франца Кафкі. Амаль усё сваё жыццё Немат Келімбетаў прысвяціў вывучэнню казахскай культуры і літаратуры — са спадзяваннем на росквіт сваёй краіны. Кніга «Лісты да сына» — адлюстраванне думак і мар пра будучыню. Яе пераклад быў зроблены пісьменнікамі Алесем Карлюкевічам і Генадзем Аўласенкам.

А. Карлюкевіч расказаў пра папярэднія пераклады казахскіх пісьменнікаў на беларускую мову і падкрэсліў, што сёння праводзіцца вялікая работа па ўзаемным знаёмстве розных культур і літаратур. Па словах перакладчыка, кніга «Лісты да сына» пабачыла свет дзякуючы цэлай сяброўскай супольнасці, якая займаецца творчай спадчынай Немата Келімбетава. Ідэя перакладу гэтага твора належыць азербайджанскаму пісьменніку, вядомаму паэту і перакладчыку Чынгізу Аліаглу. Пазнаёміцца з казахскай літаратурай дапамагла Святлана Ананьева — загадчыца аддзела міжнародных сувязей інстытута літаратуры і мастацтва імя М. Аўэзава Нацыянальнай акадэміі навук Казахстана.

Падчас працы над творам перакладчыкі карысталіся рускім перастварэннем, падрыхтаваным выдавецтвам «Художественная литература». Дырэктар выдавецтва Георгій Прахін падкрэсліў вялікае значэнне фонду Немата Келімбетава, які не засяроджваецца на выданні твораў аднаго аўтара. Так, у перакладзе на рускую мову прадстаўлена сучасная літаратура Казахстана — творы вельмі вострыя, якія апелююць да актуальных праблем.

«У нейкай ступені праз наш уплыў творчасць Немата Келімбетава стала вядомая не толькі ў постсавецкіх краінах, але і зрабіла крок на Захад, — зазначыў Георгій Уладзіміравіч. — Былі пераклады твораў на французскую мову, якія выклікалі вялікую цікавасць. Прэзентацыя аднаго з перакладаў адбудзецца ў Сарбоне — чацвёртага красавіка, у дзень нараджэння пісьменніка. Творчасць Немата Келімбетава — падзея не толькі лакальнай, але і сусветнай літаратуры».

У час XXII Мінскай міжнароднай выстаўкі-кірмашу паміж Георгіем Прахіным і дзеячамі беларускай культуры была дасягнута дамоўленасць пра фарміраванне хаця б мінімум трохтомнай бібліятэкі сучаснай беларускай літаратуры — у перакладзе на рускую мову.

Чінгіз Аліаглу распавёў, што «Лісты да сына» перакладзены на азербайджанскую мову. «Кніга выклікала вялікую цікавасць у чытачоў, атрымала шмат водгукаў у прэсе — нават больш, чым звычайна маюць выданні азербайджанскіх пісьменнікаў. «Кніга-заваёўнік» — так назваў свой артыкул адзін малады аўтар. Але, на маю думку, самая глабальная праца Немата Келімбетава была прысвечана пісьмовасці цюркскіх народаў. Гэта даследаванне вельмі патрэбнае, яно ўзбагачае духоўна. Чалавек жыве, пакуль памятаюць яго імя, чытаюць яго творы. Арэал уплыву творчасці Немата Келімбетава відавочна пашыраецца — таму з упэўненасцю можна сказаць, што гэты чалавек будзе жыць вечна».

**Алеся ЛАПЦКАЯ**



# Свята снегу, як свята кахання…

Спачатку яна заявіла пра сябе як паэт. Хоць, шчыра кажучы, адбылося гэта крыху запознена. З першымі вершамі выступіла толькі ў 1970 годзе, маючы за плячыма дваццаць пяць гадоў. Першая ж кніга «Захапленне» выйшла праз чатыры гады. Але паэтычны дэбют быў упэўненым: «ЛіМ» у нумары за 27 ліпеня 1970 года змясціў пяць яе вершаў: «Развітанне», «Змерзць хачу дарогай…», «Цішыня», «Мелодыя ночы», «Адлічвае год апошнія дні…» Дый нельга сказаць, што кніжка «Захапленне» гублялася сярод тагачасных першых зборнікаў. Адметна і другое: свой паэтычны голас Таіса Бондар падала з Малдавіі. На той час яна жыла ў горадзе Фалешты.

Па вяртанні на радзіму яна звязала лёс з «ЛіМам»: тры гады загадвала аддзелам выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі. Пасля «ЛіМа» была загадчыкам аддзела культуры часопіса «Беларусь», потым адказным сакратаром і намеснікам галоўнага рэдактара. Па яе ініцыятыве быў заснаваны часопіс «Всемирная литература», першым галоўным рэдактарам якога яна і з'яўлялася. Стаяла Таіса Бондар і ля вытокаў Рэдакцыйна-выдавецкай установы «Литература и Искусство» — менавіта так, па-руску, яна тады называлася.

На першы погляд, пастаянная загружанасць на рабоце не надта спрыяе творчай працы. Ды, як вядома, у кожнага правіла ёсць выключэнне, і Таіса Бондар акурат пад яго патрапляе. Яна, нягледзячы на пастаянную занятасць, знаходзіла час і для паэзіі. Не магла не знаходзіць, бо была паэтам па прызванні, а паэт па прызванні гэта… Услухаемся ў радкі аднаго з яе верша і зразумеем, што ж гэта такое:

*Я не пішу… Я гавару,*
*Каб словамі не захлынуцца,*
*Каб хоць адным з іх дакрануцца*
*Да песенных балючых струн,*
*Якія ладзіў дзень*
*Для смутку і для весялосці,*
*Яны маўчаць. Бы песня помсціць*
*Тым, што не можа памагчы*
*Падняцца над сабой,*
*шчаслівай,*
*Над бегам думкі нецярплівай,*
*Трывогу не перамагчы.*
*Я не пішу! Я гавару,*
*Я пецьхачу, як маці пела,*
*Рыфмуючы з жыццём няўмела*
*Рук спрацаваных кожны рух.*

Радкі гэтыя для Таісы Бондар — сімптаматычныя, яны ў пэўнай ступені яе крэда, яе творчая праграма. За словамі «Я не пішу… Я гавару…» прагавітае жаданне не проста нешта сказаць, а выказацца як мага паўней. І так, каб тое, што ў цябе на душы, стала і іншым гэткім жа блізкім і зразумелым. А што гэта і сапраўды так, бачна па лепшых творах, якія ўвайшлі ў кнігі паэзіі «Акно ў восень», «… І голас набыла душа», «Чырвоны месяц года» ды іншыя. Лірычная гераіня іх — наша сучасніца, якая часта адчувае сябе непрыкаянай сярод людзей. Не ў апошнюю чаргу і праз тое, што ёй цяжка напаткаць сапраўднае каханне, ад усведамлення якога яна магла б адчуваць сябе роўнай з іншымі.

Назва адной з яе кніг вельмі красамоўная — «Адна» (1989). Дый невыпадкова ў яе празаічным «Дзённіку жанчыны» з болем прагучала: «Я слабая! Я жанчына і хачу любіць! Хачу, каб мяне любілі!». Гэтай прагай кахання напоўнена і кніга «Святочны снег», у якой ёсць аднайменны твор. Ён, бадай, быў асабліва дарагі Таісе Бондар, бо і сваю рускамоўную кнігу яна назвала «Праздничный снег». Снег, які прынёс з сабой каханне.

Вабіла Таісу Бондар і гістарычная праблематыка, асабліва постаці жанчын. Гэта відаць і па кнізе «Рагнеда», што аднachасова з'яўляецца і кнігай мастака Уладзіміра Тоўсціка: добрую палову яе займаюць каляровыя ілюстрацыі. Дарэчы, Таіса Бондар плённа працавала і ў галіне мастацтвазнаўства, пра што сведчаць яе артыкулы, якія ў розны час змяшчаліся ў часопісе «Беларусь». Шкада толькі, што, сабраныя ў кнігу, яны так і не пабачылі свет.

Не магла не прыйсці Т. Бондар і да прозы, бо, як слушна заўважыла Таццяна Шамякіна, яна «пісьменніца з рэзка выражаным мужчынскім інтэлектам, але са здзіўляючай жаночай інтуіцыяй». Пачынала з апавяданняў, што склалі змест першай празаічнай кнігі «Сінія яблыкі» (1984), у самой назве якой адчуваецца, што напісана яна паэтам. Следам выйшлі «Час, калі нас любілі», «Паветраны замак на дваіх», «Спакуса»... Як і ў паэзіі, у прозе працавала плённа. Было пра што сказаць, а Т. Бондар умела зрабіць гэта па-свойму, яна нярэдка паяднoўваючы два часавыя пласты — сённяшні і ўчарашні, але сягала не проста ў мінулае, а ў сівую даўніну, як у рамане «Нялюба». Пэўнае падваенне асобы жанчыны бачыцца і ў аповесці «Паветраны замак»: таленавітая мастачка Міхаліна прысутнічае быццам бы ў дзвюх іпастасях, прытым гэтыя «дзве» Міхаліны далёка не заўсёды прыходзяць да згоды, прычынай чаму адчужанасць жанчыны ў сучасным грамадстве.

Выступала Т. Бондар і як крытык, публіцыст, перакладчык. Па-беларуску пераўвасобіла кнігу малдаўскага паэта Георгія Віеру «Імя тваё». А ў выдавецтве «Ириада-прос», што ў горадзе Вышні Валачок Цвярской вобласці Расіі, выйшла мініяцюрная кніжачка выбранай лірыкі самага любімага паэта сярэдневечча ў Індыі Кабіра «Песни любви» ў арыгінале, у перакладзе на рускую і англійскую мову. Рускамоўныя пераклады ў ёй Таісы Бондар.

На жаль, жыццёвы шлях не ўмясціўся ў кароткіх часавых межах: 20 лютага 1945 года — 19 снежня 2005-га. Ды напісанае застаецца…

**Сяргей ЛЮБЧАНКА**

# Голасам сваім

Недзе здалёку, з памяці ўсплыло даўняе, Бальмонтаўскае, мною ж некалі і перакладзенае:

*Бог гэты свет стварыў з нічога,*
*І ты, мастак, вучыся ў Бога.*

Кожны мастак і творыць свой свет па гэтай Божай падказцы, праўда, абапіраючыся на сваю душу, а яшчэ на перажытае, на ўласны вопыт. Што тычыцца паэтаў, дык яны заўсёды шукаюць для сваёй душы суадпаведны голас, часта сцвярджаючы, што гэты голас душа шукае сама. А паколькі тае душы ніхто ніколі не бачыў, дык даводзіцца давяраць самому паэту. Без даверу ў паэзіі нельга.

Думаю, невыпадкова калісьці Таіса Бондар адну са сваіх знакавых кніг назвала — нібыта ад радасці выгукнула: «…І голас набыла душа». Быў гэта ўжо далекаваты 1980 год. Мы, так званае філалагічнае пакаленне (а гэта — аднагодкі і дзеці вайны, равеснікі Перамогі), хадзілі ўсё яшчэ «ў маладых», толькі падступаліся да свайго саракагоддзя. І мне, а не камусьці са старэйшых, выпала тады даказваць, што ў душы паэткі сапраўды з'явіўся свой голас. У рэцэнзіі, што друкавалася ў вераснёўскім нумары «ЛіМа» за 1981 год, свой водгук на кнігу я назваў тады, здаецца, занадта патрабавальна — «Патрэбен новы крок». Новы крок абавязкова неабходны кожнаму хадаку, а творцу — асабліва, бо паэзія, як і само жыццё, ёсць рух ды яшчэ — пошук. Таіса Бондар у сваёй творчай хадзе разагналася так, што даводзілася толькі здзіўляцца нястомнасці ды плёну.

Сёння, перагортваючы старонкі той кнігі з кідкай карычневай вокладкай, міжволі спыняюся на аўтографе, выведзеным акуратнай жаночай рукой: «Паміж паэтамі заўсёды ёсць — павінна быць! — разуменне, знаходжу яго ў табе. Казіку — шчыра — Таіса 29.02.80 г.».

Да апошніх яе дзён між намі было шчырае паразуменне, нават калі дзе і спрачаліся.

Памятаю, у лясных Каралішчавічах, у пакоі Анатоля Вялюгіна на другім паверсе, справа, да самай раніцы прасядзелі ўтраіх, падбадзёрваючыся кавай, даводзячы да ладу яе паэму «Рагнеда», якая рыхтавалася да друку ў часопісе «Полымя». Галоўны рэдактар старэйшага літаратурнага часопіса Кастусь Кірэенка даволі раўніва ставіўся да паэм, асабліва калі іх аўтарамі былі маладыя паэты.

— Вось мы і дакажам! — пасмоктваючы цыгарку, казаў Вялюгін. Даволі ваяўнічы выгляд мела і сама паэтка. «Ваяўнічы» — можа, сказана занадта. Але тое, што рыса настойлівасці ў характары Т. Бондар прысутнічала, гэта беспамылкова. Дык і добра. Паэту шмат у чым, ох, як трэба быць настойлівым! Пра тыя ж Каралішчавічы ў Таісы Бондар потым напішуцца такія радкі:

*Свяшчэнны дом,*
*Узгадаваўшы нас,*
*Паэтаў тлумных гарадоў. Падчас*
*Вяртаемся — за сілаю гаючай.*
*А крылы адрастаюць так балюча!*
*Так цяжка!*

Балючага, цяжкага знаходжу шмат у ранніх і пазнейшых вершах Таісы Бондар. А вяртаючыся да кнігі «…І голас набыла душа», адзначу, што само слова «душа» гучала ў ёй даволі часта: «душа, што бездань, — не разглядзець дно», «высокі час душы — задумай прыйдзе слова», «у засценках душы, за сценамі памяці», «у шчасці неразумная душа» і г. д. Часта сустракаюцца ў радках і словы «трывога», «боль». А ў адным са сваіх вершаў паэтка прызнаецца:

*Зламаны лёс — зламаны колас…*
*Душу да слёз не прывучыць.*
*Так горасна ўва мне гучыць*
*Гадам не чутны мамін голас.*

Вось вам і яшчэ адна падказка: каб зразумець паэта, трэба ў голасе яе душы пачуць яшчэ і «мамін голас».

Цяжкаватага, «нявыплаканага болю» бачылася мне дастаткова ў вершах Таісы Бондар. Гэта была чыста жаноцкая «нявыплаканасць», тое раніімае, што нясуць душы нейкія жыццёвыя няўдачы, паразы, непаразуменні. Шлях яе быў і не такі гладкі. Нарадзілася ў г. п. Рудзенску, дзясяты клас заканчвала ў школе рабочай моладзі, працавала швачкай у райпрамкамбінаце, затым старшай піянерважатай у сярэдняй школе ў Рудзенску. А потым па волі лёсу апынулася ў Малдавіі. А там, працуючы ў дзіцячай школе, а пасля ў Доме піянераў, завочна скончыла педагагічны інстытут замежных моў у Мінску. Выкладала англійскую мову ў школе. І толькі ў 1978 годзе вярнулася на радзіму. З гэтага часу і пачынаецца яе сапраўдная літаратурная праца.

Неяк разам са сваім рудзенскім земляком Генадзем Кляўко яна завітала на Беларускае радыё, дзе працаваў тады яшчэ адзін яе зямляк — Валянцін Мысливец, ды мы з Юрасём Свіркам.

— Я хачу пазнаёміць вас не з пачаткоўцам, — сказаў тады Генадзь Якаўлевіч. — У Таісы ўжо гатова даўно да друку ажно некалькі паэтычных зборнікаў.

Кнігі Таісы Бондар неўзабаве і сапраўды пачалі выходзіць адна за адной. А потым з-пад яе пяра пачалі з'яўляцца і апавяданні, і аповесці. І нарэшце прыспеў час раманаў. На маю думку, знакавым у яе творчасці стаўся раман-містэрыя «Благаслаўленне Марыі». У гэтым творы надта цесна пераплялося рэальнае з містычным. Буйнае, разгорнутае палатно напісана нібыта на адным дыханні. Ведаю, што такое творцам даецца заўсёды цяжка.

А былі ж яшчэ публіцыстыка, пераклады, дзённікі. У апошнія гады жыцця яна працавала напружана, засяроджана і плённа, нібыта адчувала, што часу ёй адведзена жыццём вельмі мала. Прыгадваю радкі аднаго з яе апошніх вершаў:

*Вечарэе…Ужо не паспець*
*Здзейсніць тое, што здолела б*
*здзейсніць,*
*Абмяняўшы жыццё не на смерць,*

*А на волю і вольную песню.*
*Хоць пра што я? І час яшчэ ёсць,*
*І на песню няма забароны,*
*І душа на Зямлі толькі госць,*
*Не старонні, і ўсё-ткі старонні.*

Размова зноў пра тую самую душу. А калі душа імкнецца набыць свой голас, сама па сабе з'яўляецца думка, якой хочацца яшчэ большага. А большае — гэта быць пачутым і зразуметым. З гэтым і жыве кожны паэт. З гэтым жыла і яна. І голас душы яе застаецца з намі, нам і часу належыць і ўвесь яе творчы набытак. Значны.

**Казімір КАМЕЙША**

# Творца ў абдымках часу

**У дні правядзення XXII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу наша сталіца стала не толькі цэнтрам кніжнай культуры, але і месцам сустрэчы пісьменнікаў з розных краін свету. Так, у Мінску ўпершыню прайшоў Міжнародны сімпозіум літаратараў «Пісьменнік і час», у якім узялі ўдзел аўтары з 16 краін. У якасці арганізатараў гэтай надзвычай важнай падзеі выступілі Міністэрства інфармацыі краіны і Выдавецкі дом «Звязда». Пісьменнікі разважалі пра лёс літаратуры ў вырашэнні актуальных пытанняў развіцця грамадства, значнасць аўтарскага голасу і шукалі магчымыя шляхі пераадолення вакууму паміж творцам і чытачом.**

Адметна, што сустрэча літаратараў прыцягнула ўвагу кіраўніцтва краіны. У пленарным пасяджэнні форуму прынялі ўдзел: памочнік Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандр Радзькоў, намеснік главы Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Ігар Бузоўскі, намеснік Прэм'ер-міністра Беларусі Наталля Качанава. У сваім выступленні Аляксандр Радзькоў заўважыў:

— Пісьменнікі сваімі думкамі, творамі трапляюць у самую кропку, распавядаюць пра актуальныя падзеі грамадства, таму да іх голасу варта прыслухоўвацца, патрэбна падтрымліваць развіццё літаратуры на дзяржаўным узроўні.

Самі ж літаратары выказвалі занепакоенасць тым, што чытач усё радзей выбірае традыцыйную папяровую кнігу, звяртаецца за парадай да любімых аўтараў. Дырэктар — галоўны рэдактар Выдавецкага дома «Звязда», пісьменнік і краязнаўца Алесь Карлюкевіч зазначыў:

— Сённяшнія пісьменніцкія памкненні павінны быць вельмі мэтанакіраванымі, намнога больш дзейснымі і рашучымі. Чытач у разгубленасці. І зусім не таму, што ён выбірае, каго чытаць. Чалавек, за якога змагаюцца аўтары, у сваім штодзённым жыцці знаходзіцца далёка ад літаратуры і мастацкага слова. Ён разумее, што папяровая літаратура няזручная, неаператыўная. Толькі нямногія творы, што публікуюцца ў часопісах, выходзяць асобнымі выданнямі, сапраўды ўплываюць на жыцці, дапамагаюць прымаць жыццёвыя рашэнні. У Беларусі існуе шырокі кніжны свет, але барацьба за чытача заключаецца менавіта ў вырашэнні пытання: якую кнігу выбера сам чытач? Аказаць вялікі ўплыў, атрымаць поспех і прызнанне сёння можа хіба толькі твор-выбух, які дакладна і ясна адкажа на пытанні паўсядзённасці, паўплывае на сённяшні і заўтрашні дзень, пакажа праўду існавання. Таму, думаецца, аўтару перадусім варта ісці за рэалізмам, пісьменніку трэба мець сваю трывалую грамадзянскую, маральную пазіцыю, добра ведаць жыццё.

Падчас сімпозіума гучала занепакоенасць тым, што сучасны чытач страціў эстэтычныя і маральныя арыенціры, крытэрыі ацэнкі мастацкіх твораў. Гэтую думку выказаў пісьменнік, галоўны рэдактар «Литературной газеты» Юрый Палякоў. Юрый Міхайлавіч падкрэсліў:

— Ад таго, якой будзе гуманітарная сфера чалавецтва ў XXI стагоддзі, наколькі мы зможам захаваць традыцыйныя каштоўнасці, залежыць тое, якім стане свет. Літаратура зараз перажывае няпросты перыяд. У многім ён звязаны са спадчынай эпохі постмадэрну — стратай аўтарамі адказнасці за свае слова. Справа ў тым, што постмадэрніцкі рэлятывізм, які, відавочна, быў неабходным этапам развіцця сусветнай літаратуры, разбурыў аб'ектыўныя крытэрыі ацэнкі якасці твора. Вось і атрымліваецца, што настаўніку мовы вельмі складана сёння выбраць урывак з твора сучаснага пісьменніка для дыктоўкі. Больш за тое, адбыўся распад трыдцыйных сістэм арганізацыі літаратурнага працэсу, пісьменніцкія саюзы больш не маюць гучнага голасу ў грамадстве, а гэта значыць, экспертная супольнасць, меркаванне якой было вельмі важным, таксама разбураная.

Таму лагічнай выглядае прапанова Юрыя Палякова стварыць Еўразійскую акадэмію славеснасці, у якую ўвайшлі б безумоўныя аўтарытэты ў літаратуры з розных краін. Яе сябрамі маглі б стаць не толькі самі пісьменнікі, але і крытыкі, выкладчыкі літаратуры, выдаўцы, філолагі. На думку творцы, менавіта гэтая міжнародная ўстанова можа стаць той экспертнай супольнасцю, чые меркаванні, ацэнкі мусяць прымацца як аб'ектыўныя.

Паводле аўтара з Сербіі Драгана Лагічавіча, любоў, свабода, мір, велікадушша заставаліся каштоўнасцямі ва ўсе часы. Да іх ліку можна аднесці таксама паэзію і песню. Варта памятаць, што літаратурныя творы могуць быць больш значнымі дакументамі для вывучэння мінуўшчыны народа, чым гістарычныя крыніцы. Таму пісьменнік — не маленькі ў параўнанні з бясконцым часам, бо ён працуе на мэту захавання адметнасцей кожнай эпохі, з'явы, падзеі.

Многія выступоўцы падчас сімпозіума звярталі ўвагу на значнасць наладжвання кантактаў паміж літаратарамі розных народаў, узаемныя перакладу мастацкіх тэкстаў. Менавіта гэта дапаможа адкрываць свет праз кнігу. Такія думкі выказалі пісьменнік з Кітая Лаа Ма і даследчыца з Казахстана Святлана Ананьева. Але ў працэсе наладжвання сістэмы ўзаемаперакладаў не ўсё так проста. Як зазначыў старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец, вельмі цікава і карысна даведвацца пра іншыя народы і культуры праз літаратурныя творы, тым самым удасканальваць свае пісьменніцкія ўменні. Але сёння вельмі складана знайсці прафесійнага перакладчыка, які з радасцю працаваў бы ў літаратуры, асабліва калі гаворка ідзе пра рэдкія мовы, ды прыкладу, арабскую ці кітайскую.

Пра ўнікальны эксперымент, што цяпер праводзяць пісьменнікі, выдаўцы і кнігагандляры Санкт-Пецярбурга, распавёў Сяргей Селязлеёў. Ён зазначыў:

— Некаторыя пісьменнікі сёння аддаюць апошнія грошы, каб выдаць кнігі. Але ці дойдуць яны да чытача, калі не трапяць на рэалізацыю ў кніжныя сеткі? Таму кіраўніцтва Санкт-Пецярбурга вырашыла ініцыіраваць эксперыментальную праграму «Пісьменнік, час і дзяржава». У жніўні мінулага года паміж урадам горада, пісьменнікамі і распаўсюджвальнікамі кніг было падпісана пагадненне пра тое, што гандляры бяруць на сябе адказнасць па рэкламе і продажы кніг нашых аўтараў. Сумесным праектам сталася серыя недарагіх кніг коштам усяго 99 рублёў. Спрацавалі ўсе фактары: добрая падача, выкладка кніг на паліцах, нізкі кошт, якасны тэкст. Кнігі сталі прадавацца. Сёння я магу сказаць, што кожны твор у межах гэтай серыі выходзіць тыражом ад 5 да 17 тысяч. Значыць, у чытанні ёсць патрэба, ёсць імкненне атрымліваць новыя веды менавіта з кніг. Таму мы да 70-годдзя Перамогі распрацавалі новую серыю — «Пісьменнікі на вайне». Пісьменнікі пра вайну». Адметнасць выданняў у тым, што самі творы будуць суправаджацца расповедамі людзей, якія былі на вайне.



*У кулуарах сімпозіума.*

Мноства ідэй прагучала падчас сімпозіума. Пісьменнікі разважалі пра тое, што нават створаныя фантазіяй аўтара літаратурныя героі не нараджаюцца самі па сабе: іх рысы вызначае час, што варта арганізоўваць больш сумесных праектаў, працаваць разам, а ў галіне перакладу можна працаваць нават з падрадкоўнікам: варта не проста паказваць веданне моў, але і трансліраваць ідэі, выкладзеныя ў творы. Гучалі развагі пра тое, што пісьменніку неабавязкова чакаць спрыяльнага часу для выдання кнігі на паперы — намнога хутчэй будзе проста выкласці тэкст у інтэрнэт, і ён абавязкова знойдзе чытача і атрымае рэзананс. Але галасы аўтараў, напэўна, маглі б аб'ядналіся выказваннем пісьменніка-франтавіка Алеся Савіцкага:

— Трэба мудра глядзець у будучыню і ў сённяшні дзень, памятаць, што не час мінае, а мінаем мы. Трэба змагацца з крывадушшам і падманам, быць шчырымі, імкнуцца захаваць кнігу, краіну, нацыю.

Гэтую думку ў сваёй прамове падхапіла міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч:

— Хочацца, каб кніга прыцягнула ўвагу як мага большай колькасці людзей. Для нас выключна важна, каб удумлівае слова літаратараў і надалей служыла сцвярджэннем прынцыпаў маральнасці, пачуцця адказнасці чалавека за лёс сваёй краіны, спрыяла кансалідацыі грамадства перад выклікамі XXI стагоддзя. 2015 год у Беларусі аб'яўлены Годам моладзі. Таму вельмі важна, што сустрэчы ў межах міжнароднага сімпозіума прайшлі на розных пляцоўках: у БДПУ імя Максіма Танка, Інстытуце журналістыкі БДУ, у Мінскай гарадской ратушы. Важна, што і падчас выстаўкі адбываліся жывыя гутаркі літаратараў, выдаўцоў з тымі, хто любіць кнігу.

І калі новыя ідэі, рашэнні актуальных пытанняў вызначэння ролі і лёсу літаратуры ў грамадстве застануцца ў сэрцах удзельнікаў сімпозіума і кожны з творцаў будзе па-свойму рэалізоўваць плён гэтай значнай сустрэчы, то агульная рэзалюцыя, прынятая на форуме, можа стаць трывалым падмуркам для далейшага развіцця супрацы дзяржавы і творцаў, наладжвання міжнародных кантактаў. Так, у ліку іншых значных аспектаў гэты дакумент сцвярджае:

«Эфектыўна супрацьстаяць выклікам сучаснасці можна толькі разам, тады голас пісьменніка будзе адначасова чутны ў самых розных кутках планеты. Літаратура кожнага народа — гэта не толькі яго гістарычна вызначаны лёс, але і твар, звернуты да суседзяў, да ўсяго свету. Толькі ў гэтым — сардэчнай прыязнасці да іншых, блізкіх і дальніх народаў — і можа быць эфектыўнай літаратура як рэакцыя на выклікі часу. Умацаванне культурных і, у прыватнасці літаратурных, сувязей паміж нашымі народамі дапаможа супрацьстаяць аднаму з галоўных негатыўных выклікаў сучаснасці — бездухоўнасці чалавека. Удзельнікі Міжнароднага сімпозіума літаратараў «Пісьменнік і час» адзначаюць вялікую ролю міжнародных кантактаў у развіцці і прапагандзе сучаснай літаратуры. Адначасова ўзрастае сацыяльна-маральная адказнасць пісьменніка, што павінна быць прадметам пастаяннай увагі не толькі самых творчых асоб, але і ўсіх дзяржаўных і грамадскіх інстытутаў, у сферу дзейнасці якіх уваходзіць гуманітарны складнік».

Спадзяюся, Міжнародны сімпозіум літаратараў будзе мець плён: з'явяцца новыя яркія праекты, будуць выходзіць кнігі — актуальныя, якасныя і цікавыя чытачу. А праз год, ужо падчас XXIII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу, творцы зноў збяруцца ў нашай сталіцы, каб падзяліцца раднымі звесткамі і прыемнымі навінамі.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

## Нататкі рамантычнага маркетолага



Кацярына СІМАН

# Герой майго рамана

Не сакрэт, што ў кнігах цесна пераплятаюцца выдумка і рэчаіснасць. У герояў раманаў ёсць рэальныя прататыпы. Некаторыя могуць пахваліцца адразу некалькімі бацькамі-правобразамі. Да прыкладу, даследчыкі дагэтуль не могуць сысціся ў меркаванні, з каго ж «спісаны» знакаміты Джэймс Бонд: з агента брытанскай разведкі Сіднэя Рэйлі ці прынца Бернарда Ван Ліпэ-Бістэрфельда.

Але літаратурныя героі здольныя і да адваротнага: сысці са старонак і патрапіць у наша жыццё. Гэта можа быць навуковым перараджэннем, як у выпадку з сацыёнікай, дзе існуе 16 базавых тыпаў асобы, кожны з якіх названы ў гонар палітычнага дзеяча, пісьменніка ці літаратурнага героя. Або вось іншы прыклад: выдатны нямецкі псіхіятр Карл Леангард напісаў манаграфію, прысвечаную канцэпцыі акцэнтуіраваных асоб. Гэтая навуковая праца складаецца з двух тамоў. І другі том прысвечаны аналізу характараў герояў класічных твораў сусветнай літаратуры.

Але гэта ўсё толькі сухія дактрыны. Намнога больш захапляльна разважаць пра тое, як жа літаратурныя героі з маладых гадоў уваходзяць у падсвядомасць і ў той ці іншай ступені ўплываюць на наш выбар. Да прыкладу, усе мае сяброўкі ведаюць, што прыхільнік можа заваяваць маю ўвагу, калі ён высакародны, смелы, шчыры, разумны і мае добрыя манеры. Зусім нядзіўна: у дзяцінстве я была проста захопленая Атосам, а крыху пазней аддала сваё сэрца містару Дарсі. Ці ўзяць, да прыкладу, вялікага камбінатара Астапа Ібрагімавіча. Хіба можна не любіць яго з'едлівасць, праніклівасць і жыццястойкасць? Многія кажуць, што сумна мець пяшчотныя пачуцці да занадта правільных герояў. Так, «сын турэцка-падданага» і сам прызнаваўся, што ён «не херувім і крылаў у яго няма». Аднак ён «шанаваў Крымінальны кодэкс», а значыць, быў цалкам свядомым грамадзянінам. І ўсё ж, калі пакінуць іронію, то варта прызнаць, што Бэндэр захапляе перадусім сваім бясконцым аптымізмам. Хаця што там Астап! Я чула пра дзяўчат, якія ў дзяцінстве былі закаханыя ў Чашырскага Ката ці Снусмумрыка. Вось дзе інтрыга! Як той казаў, галоўнае не форма, а змест.

Максім Горкі лічыў, што аўтар, ствараючы вобраз героя рамана, павінен дадумваць рэальнага чалавека, надзяляць яго абавязковымі характарыстыкамі, уласцівымі пэўнаму тыпу асобы. Магчыма, гэтым і тлумачыцца тое, што жыццё ў кнігах падаецца больш простым і зразумелым. Бо героі належаць да сваіх літаратурных «саслоўяў», і мы не так часта чакаем ад іх ашуканства. Таму і даверыцца лягчэй, і сэрца адкрыць больш бяспечна...

Сёння прынята наракаць на тое, што мы жывём у жорсткі час, стала менш кахання, ды і з сапраўднымі героямі дэфіцыт. Дык што ж было тым узмахам крыла матылька ў мінулым, які выклікаў сёння сапраўдны тайфун? Памятаеце радкі адной з балад Высоцкага: «Значыць, патрэбныя кнігі ты ў дзяцінстве чытаў!». Дык, можа, мы 25 гадоў таму нешта не тое чыталі? Хто ведае… Але мы яшчэ можам падарыць нашым дзецям любоў і шчасце. Галоўнае — чытаць з імі патрэбныя кнігі.

# Генадзь Іваноў: «Час цяпер далёка не паэтычны»

Прэзентацыя кнігі вершаў «Выбранае» паэта, першага сакратара праўлення Саюза пісьменнікаў Расіі Генадзя Іванова адбылася 12 лютага падчас XXII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу. У невялікім інтэрв'ю аўтар распавёў шмат цікавага: пра зямлю-крыніцу, духоўную бездань, белых птушак, што сімвалізуюць свабоду, і святасць беларускіх мясцін.

Паэтычны зборнік «Выбранае» — гэта заслуга Саюза пісьменнікаў Беларусі. Нам, расіянам, нават сорамна — абяцаю, што хутка зоймемся стварэннем адпаведнай серыі кніг беларускіх пісьменнікаў, якая будзе распаўсюджвацца ў Расіі. У кнігу ўвайшлі лепшыя, на маю думку, вершы розных гадоў. Некаторыя з іх прысвечаны Беларусі. Прызнаюся, што ў іх я крыху капіраваў стыль Максіма Танка — яго знакамітыя верлібры. Усю кнігу пранізвае ідэя агульнасці двух нашых брацкіх народаў, — паведаміў Генадзь Іваноў.

У зборніку «Выбранае» аўтар узнімае тэмы, актуальныя заўсёды: трывога і радасць за Радзіму, філасофскі роздум пра будучыню народа, вера ў Бога, жаночае хараство і дабрыню. З аднаго боку Генадзь Іваноў верыць у свет, створаны «па праўдзе і каханню», а з другога — наракае на несправядлівасць і сацыяльную няроўнасць паміж людзьмі, войны і канфлікты, народжаныя чалавечай гардыняй.

Цяжка растлумачыць, ад чаго ўзнікае паэтычнае натхненне. Жыве нейкая крыніца ў душы, а пачатак яе — у роднай вёсцы на Цвярской зямлі. Гэтая зямля містычным чынам мяне сілкуе. Як успомню штосьці з дзяцінства і маладосці — адразу ж з'яўляецца пісьменніцкі настрой. Натхняе, вядома, яшчэ і вялікая руская паэзія — падштурхоўвае мяне як хваля хвалю так моцна, што атрымліваецца сапраўдны «прыбой» з вершаваных радкоў! Калі паэт ведае словы класікаў, то ён заўсёды будзе адпавядаць свайму часу, — прызнаўся Генадзь Іваноў.

Будучы паэт хадзіў у школу, якая знаходзілася ў доме, дзе калісьці жылі і тварылі Ганна Ахматава і Мікалай Гумілёў. Потым яго сям'я пераехала у горад Кандалакшу на Кольскі паўвостраў.

— Першы верш я напісаў менавіта тут, на беразе Белага мора. Прысвяціў яго адной з любімых птушак — чайцы. Па сюжэце яе прыручылі людзі, пасадзілі ў клетку і спрабавалі прымусіць забыцца пра свабоду. Я быў маленькі і, напэўна, вельмі горды, бо разважаў па-бунтарску, — узгадвае Генадзь Іваноў.

Яго вершы і сёння вельмі шчырыя і рэалістычныя — у іх няма рамантычнага глянцу альбо надзьмутай манернасці. Нефіласофскія ж радкі пра квітнеючыя дзьмухаўцы ці пухнаты снег, гарбату ў сподках ці звонкія салаўіныя галасы хутчэй лёгкія і светлыя, чым пафасныя.

Разважаючы пра духоўны стан сучаснага рускага чалавека, Генадзь Іваноў зазначае: «Час цяпер далёка не паэтычны. Няма ў людзей адзінства — большасць у разгубленасці. Спрыяе хаосу разрыў у эканоміцы, дзяленне людзей на багатых і бедных і велізарная бездань паміж імі».

Што тычыцца Беларусі, то да яе, па словах Генадзя Іванова, у творцы асаблівая духоўная цяга — «як да святых мясцін, ахвярнай зямлі, дзе здзяйсняліся вялікія подзвігі».

Падчас прэзентацыі сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі Генадзь Пашкоў узгадаў, як у 2009 годзе пісьменнікі Беларусі і Расіі праводзілі форум, што даў жыццё новай творчай арганізацыі — Саюзу пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы. «З таго часу, вось ужо шэсць гадоў, літаратары дзвюх краін цесна супрацоўнічаюць, праводзяць сумесныя пленумы і сустрэчы. Знакава, што ў серыі кніг «Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі» раптам нарадзіліся два выданні нашых расійскіх сяброў — Івана Пераверзіна і Генадзя Іванова. І гэта толькі пачатак», — упэўнены Генадзь Пашкоў.

Марыя ВОЙЦІК

# Чытаюць усе!

Як павысіць колькасць чытачоў і палепшыць становішча кніжных крамаў? Ці варта спадзявацца, што бацькі будуць прывучаць да літаратуры з дзяцінства? Гаворка пра гэта ішла на прэзентацыі, прысвечанай Году літаратуры ў Расіі, якая адбылася ў час XXII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу.

Цікавую, але не вельмі аптымістычную статыстыку прадставіў выканаўчы дырэктар Санкт-Пецярбургскага кніжнага салона Сяргей Кайкін: «Па апошніх дадзеных Усерасійскага цэнтра вывучэння грамадскай думкі, сорак восем жыхароў нашай краіны наогул не чытаюць кніг. Акрамя таго, толькі дзесяць працэнтаў бацькоў першую кнігу чытаюць дзецям самі, у той час як у СССР гэтая лічба складала дзевяноста працэнтаў». «Крытычна памяншаецца ў Расіі і колькасць кніжных крамаў: калі ў 1980-я гады іх было каля дзвюх з паловай тысяч, то цяпер засталося толькі пaўтары».

Сяргей Кайкін упэўнены, што 2015-ы год, аб'яўлены ў Расіі Годам літаратуры, дае надзею на тое, што фокус увагі грамадзян паступова перасунецца ў культурны бок — людзі пачнуць чытаць больш кніг. Да іх проста трэба «дагрукацца».

— У рамках Расійскага кніжнага саюза нарадзілася смелая ініцыятыва — павялічыць колькасць чытачоў Паўночна-Заходняга рэгіёна Расіі на дзесяць працэнтаў. Як гэта зрабіць? Праводзіць больш мерапрыемстваў, прычым у маштабе не толькі ўстановы, а ўсяго горада, прыцягваць увагу СМІ, а значыць, і грамадзян! У крамах, выдавецтвах, бібліятэках на працягу года павінны актыўна праходзіць юбілеі пісьменнікаў, прэзентацыі выданняў, дні дзіцячай кнігі ды іншыя падобныя акцыі. Усе яны будуць зафіксаваныя ў спецыяльным галіновым календары Года літаратуры, які ўжо актыўна ствараецца, — паведаміў выканаўчы дырэктар.

Прадстаўляючы Санкт-Пецярбургскі філіял Расійскага кніжнага саюза, Сяргей Кайкін распавёў пра ключавыя падзеі Года літаратуры, якія пройдуць у горадзе на Няве. Ужо ў дваццаць чыслах красавіка пачнецца серыя мерапрыемстваў, прымеркаваных да Сусветнага дня кнігі і аўтарскага права, разлічаных як на маладое пакаленне, так і на дарослых чытачоў.

Затым, у канцы мая, адкрыецца дзясяты, юбілейны Санкт-Пецярбургскі кніжны салон — выстаўка, якая збярэ прадстаўнікоў пісьменніцкай супольнасці з усіх куткоў краіны, паспрыяе прасоўванню і папулярызацыі расійскай літаратуры ў рэгіёнах і за мяжой, падтрымае маладых літаратараў. У праграме кніжнага салона прымуць удзел кіраўнікі выдавецтваў, кнігагандлёвых сетак, эксперты, бібліятэкары, вядомыя дзеячы культуры.

— 70-годдзе Вялікай Перамогі будзе лейтматывам Года літаратуры ў Расіі, у канцы якога адбудзецца яшчэ адна знакавая падзея — IV Міжнародны культурны форум у Санкт-Пецярбургу. Форум ахопіць усе галіны культуры, у тым ліку кінематограф, тэатр, бібліятэчную і музейную справы, цыркавое мастацтва. Але спадзяюся, што секцыя, прысвечаная рускай мове і літаратуры, стане галоўнай, — падсумаваў Сяргей Кайкін.

Марыя ВОЙЦІК

# Навуковец са Шчучына

Заўтра — 60-гадовы юбілей выбітнага навукоўцы, актыўнага грамадскага дзеяча Мікалая Нікалаева.

Жыццёвы шлях Мікалая Віктаравіча можна ўмоўна падзяліць на два перыяды: беларускі і санкт-пецярбургскі. Нарадзіўся М. Нікалаеў у горадзе Шчучыне Гродзенскай вобласці ў сям'і афіцэра савецкіх ваенна-паветраных сіл. Большую частку дзяцінства правёў у вёсцы Нянькава, на Навагрудчыне. У Навагрудку скончыў сярэднюю школу № 4. З 1972 па 1977 г. — студэнт гістарычнага факультэта Белдзяржуніверсітэта.

Крыху папрацаваўшы пасля ўніверсітэта настаўнікам гісторыі на Пастаўшчыне, М. Нікалаеў зноў вернецца да археалогіі — спачатку як лабарант, а пазней — малодшы навуковы супрацоўнік Ленінградскага аддзялення Інстытута археалогіі АН СССР. Геаграфія раскопак — старажытны Навагрудак, Старая Ладага, селішча Тайманава.

Вось ужо больш як 30 гадоў Мікалай Віктаравіч працуе ў Расійскай Нацыянальнай бібліятэцы: ад навуковага супрацоўніка аддзела рукапісаў да загадчыка аддзела рэдкіх кніг. У актыве навукоўца — больш як 200 публікацый па гісторыі бібліятэк, рукапіснай кнігі, бібліяграфіі. Гісторыі кнігі прысвечаны яго кандыдацкая і доктарская дысертацыі.

Мікалай Нікалаеў — адзін з заснавальнікаў і член прэзідыума Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў. Член вучонага савета Санкт-Пецярбургскага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў, праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Санкт-Пецярбургу. Федэральнае агенцтва па друку і камунікацыях Расійскай Федэрацыі ўзнагародзіла яго юбілейным медалём «Трохсотгоддзе рускага грамадзянскага шрыфту», а Беларуская праваслаўная царква — ордэнам св. Кірылы Тураўскага ІІ ступені.

Шырокі рэзананс атрымала манаграфія М. Нікалаева «Палата кнігапісная», дзе асветлены цэлы праблемны комплекс: традыцыі кніжнай культуры Беларусі, гісторыя старажытнай кірылічнай кнігі, эвалюцыя богаслужэбных кніг на лацінскай мове, феномен беларускай рукапіснай кнігі. Карыстаецца папулярнасцю і ёмістае выданне «Беларускі Пецярбург», прысвечанае ўраджэнцам Беларусі, чый лёс звязаны з Санкт-Пецярбургам.

Міхаіл СТРАЛЕЦ

# Молочно-кислые люди, или Город в пыльных тонах




**Непонятно, правда это или вымысел, но проза цепляет: больно бьёт по лицу, заставляет опустить глаза и даже ненароком покраснеть.**
**Это о книге «Одесский фокстрот, или Чёрный кот с вертикальным взлётом», вышедшей в «Издательстве АСТ» при поддержке ООО «Харвест». Добравшись до последней страницы, хочется выйти на балкон и закричать — обо всём наболевшем. А потом, напившись горячего чая с булочками, обязательно изменить свою жизнь — в светлую сторону.**

Автор книги, Татьяна Соломатина, заражает неистовым порывом говорить откровенно и смело. «Одесский фокстрот» — это не роман и не сборник эссе, как может показаться на первый взгляд. Каждый читатель найдёт здесь свой жанр, но ближе всего, как ни странно, будет «дневник отчаявшегося путешественника».

Одесса предстаёт в книге объёмно, в разных ракурсах: грустных, смешных, от которых голова плавится или, наоборот, улыбка расцветает на лице. Местный украинский колорит передан довольно точно: Татьяна Соломатина родом из Одессы. Она сразу признаётся, что не любит этот город, но всё время туда возвращается. Одесса для неё как пожизненное клеймо, место-магнит, куда необъяснимо тянет — несмотря на целый ворох недостатков.

Нельзя сказать, что писательница отзывается о героях своей книги тепло — люди у неё в большей степени вызывают скорее сочувствие, чем симпатию. Наглые и болтливые таксисты, нервные официанты, похожие на инопланетян, нагловато манерные подростки, густо накрашенные дамы «с величием кухарок, управляющих государствами», деловые мужчины, издающие «ядовито-мускульные испарения» — вся эта разношёрстная толпа окружает с первых же страниц, не давая дышать... Но вдруг читателей, как и самого автора, спасает море — октябрьское, прохладное, бесконечное. Оно, словно оазис, олицетворяет свободу, избавляет от жизненных хлопот, напряжения и негативных эмоций. «Я буду плыть, оставляя за собой берег и всё, что примостилось на нём», — утверждает автор.

Проза у Татьяны Соломатиной экстрасовременная, предложения увесистые, многослойные, откровенные. Сопутствует всему, что говорит писательница, весёлый, местами мрачноватый цинизм и остроумная философия.

Чего только стоят выражения: «неистово купоросящий», «ощущая правой почкой», «ватное мировосприятие» или «тугая кокетливая тянучка».

Прочитать книгу залпом сложно. Передышки нужны, чтобы всё осмыслить. «Четырёхколесный хлам», передвигающийся по улицам, красный борщ, «огненный как взрыв сверхновой», навязчивые «сизые» физиономии продавцов на рынке — деталей много, и все они довольно неоднозначные.

С чувством юмора у Татьяны Соломатиной всё отлично — и этот факт облегчает восприятие книги. «Сейчас я выкачусь из-за стола и, рассекая набитым животом густой мрак, поплетусь к морю, охая, ахая, пыхтя, проклиная обжорство и давая себе триста тридцать третье слово чести останавливаться отныне только в гостинице!» — смешно восклицает она в одной из глав.

Вместе с автором читатель погружается в суматоху городской жизни на отдельных её отрезках. Можно посетить если не музей и галерею, то уж наверняка ирландский паб и забегаловку с дорогим, но отвратительным кофе и колоритной публикой. Минуя несколько страниц — прогуляться по Дерибасовской, свернув на Канатную, а в завершение вечера съесть в театральном буфете вкуснейший суп всего за восемь гривен. Что и говорить — атмосферно!

Книга далеко не детская — в ней много спиртного, выражений «разного калибра» и взрослых размышлений о жизни. Иногда складывается ощущение, что писательница ходит кругами, а её мысли повторяются, чтобы наверняка «внедриться» в сознание тех, кому адресованы.

В «Одесском фокстроте» много людей и... одиночества. Дружбы, любви здесь нет — всё пронизывает какая-то искусственность, символизм, игра, метафоричность. Так ли плоха реальность на самом деле? Разумеется, нет. Татьяна Соломатина обнажает людские пороки и пытается обратить внимание на очевидные ошибки, которые мы, не замечая, повторяем каждый день. Ругаемся, сплетничаем, терпим унижения, встречаемся с людьми, которые нас не любят... Где же пресловутая независимость и право строить свою судьбу самостоятельно, не поддаваясь влиянию извне? Хочется верить, что каждый читатель после «Одесского фокстрота» задумается об этом.

Автор поместила в книгу фотографии Одессы с собственными комментариями. Пепельница на столике в кафе с дымящейся сигаретой, спящие дворняжки, примостившиеся на тротуаре, замки молодожёнов, покрытые ржавчиной, потрескавшиеся дорожные указатели — всё это наравне с текстом обеспечивает «полное погружение» в атмосферу города. «Одесский фокстрот» — это репортаж длиной в несколько жизней.

**Мария ВОЙТИК**

# Творец абсурда




Жуткие образы, страшные тайны и невообразимое одиночество соединились в сборнике новелл Франца Кафки «Превращение», вышедшем в издательстве «АСТ» при поддержке ООО «Харвест». Автора считают гением с потрясающим воображением, равного которому не было никогда…

Сборник составляет ряд новелл, которые показывают Кафку с совершенно разных сторон. Невероятные сюрреалистичные, временами даже хаотичные, образы смешиваются с глубоко философскими, полными реализма и здравого смысла. В новелле «Превращение» мы видим страшные муки Грегора, который из человека превратился в насекомое. Всеми покинутый, страдающий от одиночества, он только и способен, что предаваться воспоминаниям. Ведь его никто не понимал, семья отвернулась. И несмотря на то, что вначале сестра исправно убиралась в его комнате, приносила еду, к концу его просто забросили. Боялись смотреть, как «его многочисленные, убого тонкие по сравнению с остальным телом ножки беспомощно копошились у него перед глазами». Семья, о которой он так заботился, оставила чахнуть одного в тесной комнате, заваленной хламом. Что случилось с ним? Умер ли он от тоски и осознания собственной ничтожности или нашёл спасение для своей души? Лишь Кафка может ответить на эти вопросы. «Кто в мире любит своего ближнего, совершает не большую и не меньшую несправедливость, чем тот, кто любит в мире себя самого. Остается только вопрос, возможно ли первое», — говорит читателям автор.

В новелле «Посейдон» мы видим совершенно новый образ древнегреческого бога. Это не грозный повелитель морей, а всего лишь обычный служащий, который «на самом деле сидит здесь, в глубине Мирового океана, и занимается расчётами; время от времени он ездит к Юпитеру, и это — единственное развлечение в его одно образной жизни… Таким образом, он морей почти никогда не видел». Многие из нас в этом образе увидят одну из своих сторон — уставшую, невидящую белый свет из-за работы. Каждую из новелл можно приравнять к жизни с узнаваемыми, близкими героями. У Кафки особый слог, с множеством аллюзий, яркими и неповторимыми образами.

**Татьяна САВИЧ**

# Жестокий роман(с)




Лихие 90-е. На улицах орудуют банды, разбой процветает. На фоне всей этой нелицеприятной картины судьбы героев, собранные в сборнике рассказов Захара Прилепина «Восьмёрка». Книга вышла в издательстве «АСТ» при поддержке ООО «Харвест».

В сборник входит 8 новелл, не связанных сюжетом. Единственное, что их объединяет, это взросление героев. Показаны персонажи в юности, трудности, которые они преодолели на пути, прежде чем стать взрослыми и мужественными. У каждого своя тяжёлая судьба. В рассказе «Витёк» главный герой живёт с отцом и бабушкой в деревне и мечтает покорить Москву. Но жизнь несправедлива, начинается гражданская война, и, став солдатом, парень перебирается в город. Здесь перед ним возникает серьёзный вопрос: сможет ли он превратиться в настоящего мужчину, как его отец? Ведь он уже познал современные реалии жизни, его сердце очерствело, огрубело...

Главная идея, которая прослеживается на протяжении всех новелл, — человек, должен быть сильным и уметь терпеть боль. Особенно ярко это видно в рассказе «Допрос». Главного героя в отделении милиции до потери сознания избивают пластиковой бутылкой. Оказавшись на улице, он понимает, что в изменившемся мире ему некуда идти и некому жаловаться: и друзья, и родители, и любимая девушка, будучи не в состоянии «отомстить», предпочитают уклоняться от проблем. Персонаж пытается преодолеть кризис мужественности, но, обнаружив, что не может даже самостоятельно сплавиться по реке на лодке, оказывается перед перспективой самоубийства.

«Зато я знаю, кто ты такой, — вдруг сказал опер. — Ты мокрица. Такие, как ты, — вы не воюете, у таких, как ты, нет рук, вы ни черта не умеете делать, даже вон пять девок пропесочить пугаетесь... Вы живёте с мамками, вы сидите у всех на шее. Избили тебя? Ты погляди, какая беда. Конец света настал! Ты знаешь, как меня били в армии… ты не служил ведь? Я ж знаю, что не служил. Вас туда не загонишь, мокриц. Поэтому вы хлипкие такие. Хлипкие, скользкие, склизкие. А бить — это нормально, понял?» — вот так, не по-детски, обращаются к слабовольным в «Восьмёрке».

Сам Прилепин в одном из интервью назвал свою книгу «Отцы и девки». Эти два персонажа встречаются почти во всех его новеллах, и если «девки» не всегда играют ключевую роль, то «отцы» являются безусловным примером для подражания.

Не менее примечателен и стиль, в котором пишет автор: никто другой так не может смешать чернуху и философию воедино. Чего только стоит фраза: «своими ноздрями, которыми она часто принюхивалась к Новикову, как будто он на ночь спрятал под мышки по селёдке и забыл там». Повести Прилепина очень реалистичны и заканчиваются жизненно — совсем не трагично, но и счастливым концом это не назовёшь.

**Татьяна САВИЧ**

Паралелі

# Гісторыі па-за рэчаіснасцю



*Мастак, аўтар графічных раманаў Райнхард Кляйст.*

**Жыццё мастака, аўтара графічных раманаў з Берліна Райнхарда Кляйста больш нагадвае жыццё знакамітасці. Выхад кніг адразу ў некалькіх краінах, мноства інтэрв'ю для газет і тэлебачання, высокія наклады выданняў, прызнанне чытачоў… Але, нягледзячы на такі насычаны графік, Райнхард знайшоў час, каб па запрашэнні Інстытута імя Гётэ ў Мінску завітаць у беларускую сталіцу ў дні правядзення XXII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу. Тут мастак правёў майстар-клас, а таксама паўдзельнічаў у незвычайнай вечарыне, дзе ў рэжыме жывога часу за некалькі хвілін ствараў ілюстрацыі да вершаў і песень. Наш карэспандэнт мела ўнікальную магчымасць пагутарыць з Райнхардам — пра натхненне, лёс графічных раманаў і спосабы змагання з лянотай, а таксама зазірнуць у мінскі нататнік сусветна вядомага мастака.**

**— Райнхард, ведаю, што ўчора падчас вечарыны вам давялося ў прамым сэнсе маляваць вершы і песні, проста на вачах гледачоў, у рэжыме рэальнага часу ператвараць словы ў мастацкія вобразы. Вы ўпершыню ўдзельнічалі ў імпрэзе «жывога малявання», ці live drawing?**

— Так, фармат гэтай вечарыны крыху адрозніваўся ад таго, што я рабіў раней. Я многа разоў удзельнічаў у падобных шоу, але тады я проста маляваў пад жывы акампанемент музыкаў, якія выконвалі кампазіцыі ў стылі кантры. Яшчэ да правядзення імпрэз я ведаў усе песні. Але да вечарыны ў Мінску мне патрэбна было адмыслова падрыхтавацца. Я атрымаў пераклады вершаў і тэкстаў песень, таму ўжо ведаў, пра што будзе ісці гаворка. Але не меў ніякага ўяўлення пра тое, колькі часу мусіць заняць выкананне кожнай з песень і чытанне кожнага верша: я зусім не разумею беларускай мовы. Часам не паспяваў дамаляваць цягам гучання верша ці песні, а часам наадварот — спраўляўся нават хутчэй. Але не думаю, што аўдыторыя гэта надта заўважала. Было незвычайнае пачуццё — калі не разумееш дакладна, пра што ідзе гаворка, але адчуваеш атмасферу. Я ведаў, што і публіка адчувае мой настрой: гледачы смяяліся, застывалі ў чаканні, суперажывалі лірычным героям твораў, што гучалі.

**— Зазвычай вершы і песні складаюцца з комплексу розных вобразаў. Як вы прымалі рашэнне, якую ілюстрацыю зрабіць да кожнага з твораў, што менавіта намаляваць?**

— Здаралася, калі я чытаў тэкст, то ў мяне ў свядомасці адразу ж узнікаў вобраз, нават калі я адмыслова пра яго не думаў. Што да іншых твораў, то мне патрэбна было проста ўвасобіць вобраз, нейкім чынам звязаны з маёй працай. Напрыклад, да перакладу адной з песень Леанарда Коэна я намаляваў баксёра, бо ў мяне ўжо ёсць графічны раман пра аднаго вядомага баксёра, і я ўмею добра маляваць гэтага героя. А да адной з кампазіцый я зусім не мог прыдумаць, што намаляваць. Таму проста зрабіў малюнак выканаўцы песні, паэта і перакладчыка Андрэя Хадановіча. Думаецца, што атрымалася выдатна. Гэта была ідэальная ілюстрацыя, што паказала і песню, і ролю яе выканаўцы.

**— А ў цэлым, якія вашы любімыя тэмы? Што найбольш падабаецца маляваць?**

— Мне вельмі даспадобы рабіць замалёўкі, калі я падарожнічаю. Малюю будынкі, прадметы, людзей. Сёння, падчас экскурсіі па Мінску, я таксама зрабіў некалькі накідаў у нататніку. У сваіх кнігах коміксаў я факусіруюся ў асноўным на біяграфіях, да прыкладу, музыкі Джона Кэша, папулярнага баксёра Гары Хафта, зрабіў кнігу пра Фідэля Кастра, дзяўчыну-спрынтара з Самалі. Калі шукаю тэму, то мяне найбольш цікавіць гісторыя жыцця чалавека, якую можна выкарыстаць, каб сказаць нешта іншае. Да прыкладу, распавядаючы пра жыццё баксёра Гары Хафта, я кажу таксама пра Халакост і пра тое, што адбываецца з людзьмі, якія яго перажылі. З заканчэннем Халакосту жыццё не спыняецца, я хачу паказаць, што адбываецца з чалавекам пасля гэтых жудасных падзей, як ён іх асэнсоўвае, як змяняецца яго жыццё і жыццё яго блізкіх. У выпадку з распаведам пра Джона Кэша гэта была і гісторыя пра свабоду, а таксама быццё ў турме. Ён апынуўся ў сваёй уласнай турме, ужываў шмат наркотыкаў і мусіў вызваліцца з гэтай залежнасці. Я ўводжу ў распавед іншага героя — турэмнага вязня, каб паказаць і такі від зняволення.

**— Разважаючы пра вашы графічныя раманы, можна акцэнтаваць увагу не на мастацкай аснове іх сюжэтаў, але на дакументальным падмурку?**

— Так. Але я спрабую распавесці нешта акрамя фактаў, правесці чытача па-за рэальнасцю, зразумець, што хаваецца за жыццём чалавека.

**— Што першаснае ў працы над графічнымі раманамі: сюжэт ці малюнкі? Вы называеце сябе ў гэтым выпадку перадусім мастаком ці пісьменнікам?**

— Калі ствараю самі ілюстрацыі, то я перадусім мастак, а калі распрацоўваю сюжэт — пісьменнік. Але зазвычай маляванне патрабуе больш часу. Я пачынаю працу над тэкстам новай кнігі, калі яшчэ працую над малюнкамі да папярэдняй. Гэтыя працэсы адбываюцца адначасова. У сярэднім, на стварэнне графічнага рамана патрэбна паўтара года. Але ў гэты час я паралельна выконваю іншыя працы: раблю ілюстрацыі для часопіса, ствараю вокладкі дыскаў.

**— Вольныя мастакі ў сваёй працы могуць разлічваць толькі на сябе. Як лічыце, натхненне ўсё ж існуе?**

— Рашэнне стаць мастаком-фрылансерам для мяне не было выпадковым. Проста не засталося выбару: няма такіх кампаній, якія маглі б мяне прыняць на працу. Але цягам апошніх дзесяці гадоў я мог выбіраць, чым займацца, і гэта вельмі добра для Германіі. Нямногія мастакі могуць сказаць гэта. Тэма Халакосту — не ў ліку самых папулярных, і для майго выдавецтва стварэнне такой кнігі — усё яшчэ рызыка. Але цяпер у мяне багата прыхільнікаў на радзіме і па ўсім свеце. Яны ведаюць мае кнігі і хочуць іх чытаць, і можна сцвярджаць, што, нягледзячы на такія складаныя тэмы, я стаў паспяховым. Так, натхненне існуе, і яго часам складана схапіць, але заўсёды патрэбна прымушаць сябе працаваць. Кожны дзень я вымушаю сябе ісці ў студыю. Ніхто не вызначае тэрміны, у мяне няма кіраўніка, і ўвесь час трэба самому ставіць мэты, падштурхоўваць сябе.

**— Я ўчора вынайшла вельмі добры метад самаматывацыі. Калі пісала тэкст, то вельмі захацела з'есці апельсін. Паклала яго недалёка ад ноўтбука і сказала сабе: можна ўзяць, толькі калі матэрыял будзе скончаны…**

— О, гэта вельмі добры метад *(смяецца)*. Мой сусед па студыі, які цяпер працуе над раманам, неяк распавёў, што ўстанаўлівае для сябе час абавязковага пісання, да прыкладу, з 11 да 13 гадзін. Гэта значыць, што з 11 да 13 ён павінен працаваць толькі над кнігай. Ніякіх прабачэнняў, і працы ў гэты перыяд часу ніяк не пазбегнуць. Метад апынуўся вельмі дзейсным: часам ён піша даўжэй, але ніколі не заканчвае раней — прымушае сябе працаваць менавіта да пэўнага моманту. Думаю, кожнаму мастаку патрэбна выпрацаваць прыёмы змагання з уласнай лянотай.

**— А вы як змагаецеся з ёй?**

— Праца мне прыносіць вельмі вялікае задавальненне, мне весела маляваць, мне падабаецца сам працэс. А яшчэ я слухаю аўдыякнігі ў час выканання механічных працэсаў, калі не трэба думаць. Да прыкладу, калі размалёўваю ўжо гатовыя малюнкі. Гэта проста фантастычна! Я ўжо паслухаў столькі кніг! І яны прымушаюць працаваць далей: хочацца даведацца, што ж адбудзецца ў наступнай главе. У выніку я больш часу праводжу ў студыі і працую хутчэй.

**— Наколькі складана ў Германіі знайсці выдаўца для графічных раманаў? Як выдаеце свае кнігі?**

— Раней я працаваў з рознымі выдавецтвамі, але цяпер — толькі з адным. Гэта вельмі вялікае выдавецтва Carlsen. Я не так даўно падпісаў кантракт, у адпаведнасці з якім павінен прадставіць ім тры свае наступныя праекты. Менавіта Carlsen мусіць быць першым у ліку тых, каму я прапаную рукапіс. Магчыма, яны баяцца, што я пачну супрацу з іншымі выдаўцамі *(смяецца)*. Насамрэч, такі кантракт — вялікі гонар для мяне. Гэта значыць, што мае кнігі досыць паспяховыя. Я ўжо амаль два дзесяцігоддзі працую ў галіне коміксаў, і першыя дзесяць былі не вельмі ўдалымі. Але цягам апошніх гадоў становішча толькі паляпшаецца. Выдаўцы зацікаўленыя ў маіх праектах, яны хочуць працаваць са мной, бачаць, што на мяне шмат увагі звяртаюць і чытачы, і сродкі масавай інфармацыі. Важна таксама, што сёння я маю некалькі выдаўцоў у розных краінах, якія хочуць публікаваць мае кнігі. Таму для майго нямецкага выдаўца супраца забяспечвае і камерцыйны поспех, і добрую рэпутацыю.

**— Распавяду вам гісторыю. Адзін з беларускіх рок-гуртоў неяк вырашыў зрабіць для прыхільнікаў майкі са сваім лагатыпам. Яны думалі, што іх музыку ў асноўным слухаюць класічныя рокеры старэйшага ўзросту, і таму замовілі майкі ў асноўным вялікага памеру. Аднак на канцэрце выявілася, што майкі ніхто не купляе: яны былі надта вялікія для дзяўчат. Хто ваш чытач? Ці супадае ваша ўяўленне пра тое, хто можа прачытаць графічны раман, з рэчаіснасцю?**

— Не зусім. Мае кнігі набываюць вельмі розныя людзі. Гэта звычайныя чытачы кніг коміксаў і аўдыторыя, зацікаўленая тэмай маіх графічных раманаў. Яны слухаюць радыё, чытаюць газеты ці проста бачаць кнігі на паліцах кнігарняў і, зацікаўіўшыся, вырашаюць набыць раман. Насамрэч, я нават уявіць не магу, хто мой чытач. Гэта вельмі разнастайная аўдыторыя. Да прыкладу, можна было б падумаць, што кнігі пра Джоні Кэша будуць набываць толькі аматары яго музычнай творчасці, але гэта не так. Імі цікавяцца і проста прыхільнікі маёй працы. Але мае чытачы ў большасці — дарослыя людзі.

З развіццём руху графічных раманаў у Германіі аўдыторыя чытачоў графічных раманаў значна змянілася. І мне гэта вельмі падабаецца. Калі я пачынаў працаваць у індустрыі коміксаў, нам было вельмі складана прадаваць кнігі, коміксы не згадваліся ў газетах, тэлебачанне не звяртала ўвагі, у нас не было платформы для рэкламы кніг, але апошнім часам галіна атрымала значнае развіццё.

Да прыкладу, два тыдні таму я ўдзельнічаў у рэкламным туры ў падтрымку сваіх кніг у Італіі. Было некалькі сустрэч са школьнікамі на тэму Халакосту. Дзяцей проста прымусілі прыйсці на вечарыну *(смяецца)*. Спачатку мне было вельмі страшна, я не ведаў, пра што размаўляць з 14 — 16 гадовымі вучнямі. Але атрымаліся фантастычныя імпрэзы. Дзеці так зацікаўлена слухалі, задавалі шмат пытанняў, сапраўды хацелі даведацца, што адбывалася з галоўным героем. Я заўважыў, што спалучэнне гістарычнай тэмы і малюнкаў прыварблівае ўсіх.

**— А ў цэлым, часта даводзіцца браць удзел у рэкламнай кампаніі сваіх кніг?**

— Вельмі часта!

**— Вам гэта падабаецца?**

— Думаю, што так. Але цяпер мне вельмі складана, бо адразу тры мае кнігі выходзяць у розных краінах, а новы графічны раман рыхтуецца ў Германіі. Я мушу ўвесь час распавядаць пра свае работы, адказваць на пытанні, пісаць шмат лістоў. На наступным тыдні запланаваны дзве імпрэзы ў Берліне, маім родным горадзе, прысвечаныя новай кнізе пра самалійскую спартсменку. І гэтая праца займае ўсё больш і больш часу, няма калі засяродзіцца на бягучых праектах. Аднак праца па прасоўванні кніг мне вельмі падабаецца. Радуе ўвага значных тэлеканалаў, якія робяць выдатныя клiпы і рэпартажы пра кнігі. Мяне ўсё яшчэ здзіўляе, што гэта ўвогуле магчыма!

**Марына ВЕСЯЛУХА,**
**фота аўтара.**



*Малюнак з мінскага нататніка Райнхарда Кляйста.*

# Анастасія Грыненка: «У жанры мюзікла мы ўсё яшчэ вынаходзім кола»

**Анастасія Грыненка паставіла ў тэатрах Беларусі, Расіі і Літвы некалькі дзясяткаў спектакляў у жанры мюзікла. Два гады таму пасля 15 гадоў працы ў Музкамедыі яна рызыкнула і сышла з дзяржаўнага тэатра, каб адкрыць свой уласны. Новы тэатр узяў пад крыло і даў яму сваё імя знакаміты расійскі кампазітар Генадзь Гладкоў. Напярэдадні 80-годдзя аўтара любімых «Сабакі на сене», «Брэменскіх музыкантаў», «Звычайнага цуду» ды шматлікіх іншых тэатральных і кінахітоў рэжысёр Тэатра Генадзя Гладкова «Тэрыторыя мюзікла» распавяла пра супрацоўніцтва з майстрам і тое, як выжыць сёння прыватнаму тэатру.**



*Дзмітрый Якубовіч і Анастасія Грыненка ў Маскве ў гасцях у кампазітара Генадзя Гладкова.*

**— Як жывецца тэатру без дапамогі дзяржавы?**

— Мы трымаемся на плыву і пазіраем у будучыню, але назваць тэатр прыбытковым прадпрыемствам цяжка. Цяпер у нас ідзе працэс развіцця, заваявання пазіцый. Напэўна, самы галоўны набыты капітал за два гады — гэта калектыў аднадумцаў. Ёсць каманда, глядач, які да нас ходзіць і ведае, куды ён прыйшоў. Прычым не толькі ў Мінску, але і ў рэгіёнах. Ёсць гарады, заўсёды гатовыя нас прыняць, нават з яшчэ не створанымі спектаклямі.

**— Працоўныя кніжкі вашых артыстаў ляжаць у іншых тэатрах. А што іх прыцягвае ў вас, калі не заробак?**

— Напэўна, прыязная творчая атмасфера ў калектыве, што для тэатра вялікая рэдкасць. У антрэпрызных праектах артысты атрымліваюць тое, чаго ім не хапае на асноўным месцы працы. Рэпертуарны тэатр — планавая вытворчасць, якая не заўсёды можа прапанаваць вялікія творчыя перспектывы, нехта, недаацэнены, гадамі сядзіць без роляў, гадуе комплексы. А гэта самае страшнае для артыстаў — бачыць, як сыходзіць твой час. Антрэпрыза ў гэтым сэнсе больш манёўраная, нічто ў трымае баласт, на пастаноўку запрашаюцца менавіта тыя людзі, якія патрэбны. На Брадвеі ўсе тэатры антрэпрызныя ў нашым разуменні: людзі збіраюцца на праект, працуюць і разыходзяцца. Цяпер у нас няма недахопу ў акцёрах, наадварот, кожны новы спектакль прырастае новымі людзьмі. Пачалі рэпеціраваць мюзікл «12 крэслаў» і падлічылі, што ў ім занятыя артысты з пяці тэатраў: Музычнага, Вялікага, Рускага, Купалаўскага і РТБД.

**— Вы рэжысёр, ваш муж Дзмітрый Якубовіч — артыст і харэограф. Цяжка людзям творчых прафесій грошы лічыць?**

— Грошы лічыць Дзіма як кіраўнік тэатра, але творчая натура ў ім, як правіла, перамагае, хоць наш бухгалтар і спрабуе спусціць яго з нябёсаў на зямлю. Мабыць, камерцыйную жылку яшчэ давядзецца пашукаць. Ну, не можам мы пайсці па традыцыйным шляху антрэпрызы — звесці ўсё да пяці чалавекаў на сцэне, апрануць іх у сучасныя касцюмы і паставіць тры табурэткі замест дэкарацый. Вось «Сабака на сене», гістарычны касцюмны спектакль, акупіў сябе толькі праз паўгода пасля прэм'еры. А ў «12 крэслах» у нас столькі народу, што проста за галовы хапаемся з мастаком, як іх усіх апрануць.

**— На чым тэатр можа эканоміць?**

— На аўтарскіх адлічэннях. Але гэта толькі нам так пашанцавала. Ад Генадзя Ігаравіча Гладкова і яго сяброў-калег Энціна і Кіма мы маем рэжым найбольшага спрыяння. Яны перадаюць тэатру свае творы бязвыплатна. Але львіную долю даходаў з'ядаюць арэнда рэпетыцыйнай пляцоўкі і сцэны ў Мінску, арэнда транспарту і аплата пражывання калектыву на гастролях. У той жа час гастролі і дапамагаюць нам знаходзіцца ў плюсе.

**— Вы займаецеся мюзіклам 15 гадоў. Якія праблемы бачыце ў гэтым «замор-скім» жанры для нашай краіны?**

— Галоўная праблема ў тым, што мы не ведаем сваёй гісторыі музычнага тэатра, не арыентуемся на сусветны вопыт, а кіруемся толькі ўласнымі ўяўленнямі пра тое, як гэта павінна выглядаць. Усюды і заўсёды выйграюць творы з добрай драматургічнай першакрыніцай. Мюзікл — вельмі шырокі жанр, які выкарыстоўвае ўсе, што напрацавана ў драме, балеце, оперы. У нас жа чамусьці лічыцца, што мюзікл — гэта эстрадная шоу і менавіта да гэтага трэба імкнуцца. Тут — арыя героя, тут праходзіць балет, а тут у нас дыялог. Вось і атрымліваецца канцэрт у касцюмах, але ніяк не тэатр. Пакуль у нас будзе існаваць такі падыход, яркімі прыкладамі якога можна назваць «Соф'ю Гальшанскую» і «Блакітную камею» з «Дуброўскім», жанр развівацца не будзе.

**— Магчыма, мы затрымаліся ў стылістыцы мінулага стагоддзя і не можам ад яе пазбавіцца...**

— Маладосць многіх нашых культурных дзеячаў прыйшлася на росквіт савецкай эпохі, а ў людзей ёсць тэндэнцыя заставацца ў сваім часе. Гэта адчуваецца на прыкладзе некаторых аўтараў, кампазітараў... Вынаходзіць кола, калі ўжо на роварах ездзяць. З іншага боку, савецкі, здавалася б, кампазітар Гладкоў піша больш сучаснай мовай, чым многія маладыя. Таму што ў яго сур'ёзны базіс музычнай драматургіі, ён валодае і аркестроўкай, і пабудовай «слова — музыка — эмоцыя — вобраз — канфлікт». Праблема ў тым, што нідзе гэтаму не вучаць і ніхто гэтым не цікавіцца, хоць цяпер ёсць усе магчымасці. Хочаш, на Брадвей накіруйся або ў Лондан, хочаш — у Расію, дзе музычныя тэатры ўсё гэта даўно зразумелі і працуюць з аўтарамі ў патрэбным ім кірунку. Не хочаш — шукай відэа, купляй п'есы і нотны матэрыял. Цяпер усё даступна.

**— Дык публіка ж і так ходзіць...**

— Не хацелася б нікога крыўдзіць, але ідзе фільтр публікі па ўзроўні адукацыі. Разлік робіцца на людзей неспакушаных. Бяруцца спрошчаныя характары, схемы, як у «Блакітнай камеі», самым папулярным мюзіклe ў краіне. Гэта значыць, людзі-функцыі і музыка, якая кожны дзень гучыць з тэлевізара. Атрымліваюцца спектаклі, якія зводзяць тэатр ад тэатра, замінаюць яму быць сур'ёзным відам мастацтва. Гэта адсякае ад мюзікла гледачоў, якія ходзяць у той жа Купалаўскі, Оперны. А потым у гледачоў, якія выбіраюць такі рэпертуар, тая ж «Вестсайдская гісторыя», дзе ёсць драматычны канфлікт, выклікае пратэст, таму што не ўпісваецца ў іх успрыманне музычнага тэатра.



*Сцэна з мюзік-шоу «Формула кахання».*

**— Ці магчыма пастаноўка ў нашай краіне якога-небудзь вядомага сусветнага мюзікла?**

— У Мінску мала жыхароў і турыстаў. Таму ні адзін тэатр, а тым больш прыватны, не зможа сабе дазволіць укладваць сур'ёзныя бюджэты ў такія маштабныя і раскручаныя спектаклі, як «Прывід оперы» ці «Баль вампіраў», дзе размова ідзе пра мільёны долараў і істотную частку грошай з'ядае купля ліцэнзіі. Але нейкую добрую класіку накшталт «Вестсайдскай гісторыі», «Скрыпача на даху», «Маёй цудоўнай лэдзі» ці чаго-небудзь з сучасных брадвейскіх або оф-брадвейскіх пастановак дастаткова рэальна пацягнуць.

Наш тэатр, акрамя рэпертуару Генадзя Гладкова, вядома, будзе звяртацца і да іншых аўтараў. У нас нядрэнныя адносіны з Пасольствам ЗША ў Беларусі. Мы зрабілі з імі ў 2009 годзе, калі яшчэ тэатра Гладкова не існавала, канцэртную праграму «Прывітанне, Брадвей!» у філармоніі. Потым пасольства дапамагло нам купіць ліцэнзію на «Вестсайдскую гісторыю». А зараз мы працягваем з імі супрацоўнічаць ужо ў рамках тэатра «Тэрыторыя мюзікла» і спадзяёмся, што з іх спрыяннем здолеем паставіць у Беларусі яшчэ што-небудзь з брадвейскіх спектакляў. У Штатах з аховай аўтарскіх правоў усё сур'ёзна — проста так узяць тое, што табе спадабалася, немагчыма. Ды і мы не можам дазволіць сабе існаваць па-за прававым полем і ігнараваць аўтарскае права. Трэба дамаўляцца з аўтарамі ці знаходзіць сродкі, а не выдаваць чужыя творы за свае і спадзявацца, што ў Беларусі можна не трапіць на вочы праваўладальнікам.

**— 18 лютага маэстра Гладкову споўнілася 80 гадоў. Як адзначылі юбілей?**

— Вялікім тэатралізаваным канцэртам «Формула кахання», у якім сабралі ўсе яго галоўныя хіты. Паўторым гэтую праграму яшчэ і 8 сакавіка ў падарунак усім жанчынам. Кампазітары такога ўзроўню нараджаюцца вельмі рэдка, і хай гэта гучыць пафасна, але маштаб таленту Гладкова яшчэ да канца не ацэнены. Нам вельмі пашанцавала, што мы маем магчымасць «наталяцца» яго творчасцю, атрымліваць яго кансультацыі і дапамогу.

**— Напэўна, няма людзей на постсавецкай прасторы, не знаёмых з яго музыкай... А які Гладкоў чалавек?**

— Цудоўны! Актыўны, тэмпераментны, клапатлівы. Ён дбае пра ўсіх, хто знаходзіцца з ім побач — і фінансава, і па-чалавечы. Нягледзячы на свой шаноўны ўзрост, Генадзь Ігаравіч вельмі малады. У яго хапае і аптымізму, і энергіі, каб запальвацца новымі ідэямі і ўвасабляць іх у жыццё.

**Марыя СІДАРОВІЧ,**
**фота Анжэлікі Грэковіч і з асабістага архіва Анастасіі Грыненка.**



# Вячаслаў Статкевіч: «Фальклор ужо не той!»

Яго адметнасць — мяккі тэмбр голасу, які немагчыма не пазнаць. Ён адзін з лепшых рэжысёраў і сцэнарыстаў святочных мерапрыемстваў. Зорка ў гонар гэтага артыста замацавана на адкрытым мемарыяльным камені горада Ліды. Знаёмцеся: саліст Беларускага дзяржаўнага ансамбля народнай музыкі «Свята» Беларускай дзяржаўнай філармоніі — Вячаслаў Статкевіч.

**— Адкуль у вас схільнасць да творчасці?**

— Усё, відаць, ад нашай беларускай спеўнай зямлі. Мая маці, Яўгенія Андрэеўна, добра спявала, бацька, Казімір Віктаравіч, у свой час іграў на барабанах. Сам я з вёсачкі Рэпнікі Лідскага раёна. Менавіта там у дзяцінстве і пачуў першыя песні, якія жанкі спявалі ля ручайка. Што да творчасці, то заспяваў рана. Доўга ішла мутацыя голасу, нават калі ўжо вучыўся ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. Спяваў у хоры Акадэмічнага ансамбля песні і танца Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь (хаця па спецыяльнасці — «Акцёр драматычнага тэатра і кіно»). Працаваў у Тэатры юнага гледача, з'яўляўся вядучым майстрам сцэны аднаго акцёра «Зніч». Лёс пакідаў па ансамблях «Сваякі», «Квецень», «Вячоркі», «Славянскі сувенір», «Менскі гармонік», «Неруш». На беларускім тэлебачанні вёў праграму «Спявай, душа». Па волі лёсу трапіў у калектыў «Свята», дзе і спяваю ўжо 22-гі год.

**— Чаму менавіта народная музыка?**

— Беларуская народная песня простая, мілагучная. Мне пашанцавала ў жыцці: наша сям'я — беларускамоўная. Цесць, Мікола Чарняўскі, вядомы пісьменнік, цешча, Алена Іосіфаўна, працавала ў Нацыянальным архіве Беларусі. Жонка, Анастасія, выкладае як беларускую, так і рускую мовы ў Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэце. А дачка Ангелінка ведае амаль увесь рэпертуар «Свята», мае народны голас і тэмбр. Родная мова дома — таму мне проста і ў творчасці. Па маладосці я спрабаваў сябе ў журналістыцы: вёў рубрыку «Зоркі эстрады» ў часопісе «Гаспадыня», працаваў у часопісе «Роднае слова», друкаваўся ў газетах «Беларуская ніва», «Чырвоная змена», «Звязда». Пасля зразумеў, што гэта крыху не маё, і звязаў свой лёс з народнай песняй: менавіта ў ёй бачу праўду, у ёй раскрываецца мая душа.

Аднойчы вырашыў вывучыць 500 народных песень, і дзесьці каля 200-й адчуў, што паўтараюцца адныя і тыя ж мелодыі, словы. Пачаў сам пісаць і перакладаць. Узнікла багата задумак… Стаў прадзюсіраваць маладых артыстаў, працаваць як рэжысёр і сцэнарыст. У 2010 годзе былі створаны ансамбль «Гуляй, казак!» (мастацкі кіраўнік Сяргей Сарокін), назву дапамог прыдумаць я, у аснове канцэпцыі калектыву — інтэрактыўнае шоу з публікай (песні, танцы, анекдоты).

**— Як вы пачалі працаваць у ансамблі «Свята»? Што можаце распавесці пра калектыў?**

— Наш ансамбль быў арганізаваны 19 лістапада 1984 года. Раней яго кіраўніком быў заслужаны артыст Беларусі Васіль Купрыяненка, зараз — заслужаны артыст Беларусі Анатоль Кашталапаў, абодва — выхадцы з «Харошак». Аснова рэпертуару першага складу — фальклор Палесся, шмат песень выконвалася а капэла. Сёння — гэта народныя апрацоўкі, інструментальныя п'есы, харавыя, танцавальныя і гумарыстычныя нумары, сучасныя эстрадныя песні. «Свята» — адзін з нямногіх ансамбляў, які працуе ўжывую. Шчыра скажу, пасля 30 гадоў існавання нам цяжка знайсці касету ці кампакт-дыск, каб праслухаць песні мінулага. Можа, таму мы не настолькі папулярныя, як іншыя калектывы. *(Смяецца.)* Кожны канцэрт ансамбля — монаспектакль: сінтэз музыкі, танца і песні.

З самага першага складу захаваліся толькі чатыры артысты, з кожным годам з'яўляюцца ўсё новыя, багата моладзі: аснова ансамбля — мастацкі кіраўнік, заслужаны артыст Беларусі Анатоль Кашталапаў, заслужаная артыстка Беларусі Марыя Маршак, Васіль Сатваронны, Людміла Кірыленка, Анастасія Хлястова, Таццяна Сушчэня, Алена Літаш, Таццяна Карабкова, Наталля і Яўген Нарэйка, Вольга Сушкевіч, Яўген Калінін ды іншыя. На жаль, не многія затрымліваюцца. Я прыйшоў у калектыў напрыканцы 1993 года і прыхінуўся душой. Вядома, праз гады штосьць мяняецца, але нязменнымі застаюцца традыцыі: беражлівыя адносіны да народнай песні, танца, высокае выканальніцкае майстэрства, павага да гледачоў і слухачоў.

**— Вы выступаеце на розных фестывалях, канцэртах. Якая імпрэза больш за ўсё запомнілася?**

— Багата розных было. Многа паездзілі ад Пекіна да Лондана, ад Каракаса да Парыжа. Памятаю гастролі, калі ехалі з Польшчы ва Ушачы і раптам загарэўся аўтобус з усімі інструментамі і касцюмамі — выратавалі, што змаглі. Пагарэлі барабаны, але мы ўсё ж далі канцэрт.

**— Як вас успрымаюць за мяжой? Ці адрозніваецца замежная публіка ад айчыннай?**

— Выдатна. У Еўропе пазнаюць беларускі фальклор па нацыянальным строі. Але ж самыя ўдзячныя слухачы жывуць у беларускай глыбінцы!

**— З вялікага песеннага рэпертуару можаце выбраць любімую кампазіцыю?**

— Кожная спетая мною песня выпешчаная, як маленькі спектакль. Складана вылучыць адну як сімвал на ўсё жыццё. Нават сабраць усе песні ў адзін канцэрт немагчыма.

**— Ансамблю «Свята» 30 гадоў. Ці дадаяце нешта новае ў рэпертуар, напрыклад, сучасныя аранжыроўкі? Ці не губляецца пры гэтым нацыянальны каларыт?**

— Вядома, можна было б і ў лапцях выходзіць на сцэну, але ж час дыктуе свае законы. Мы першы калектыў, які ўвёў залатую нітку ў сцэнічныя касцюмы. Бо звычайна беларускім святочным уборам характэрны чырвоны, белы і чорны колеры. Змяніліся і рытмы ансамбля. Так, акрамя чыста аўтэнтычнага гучання дуды, ёсць сучасныя аранжыроўкі песень і кампазіцый, напрыклад, «Сена маладое».

**— Ці слухаеце кампазіцыі іншага жанру, акрамя народнай музыкі?**

— На жаль, дыяпазон фальклорных фестываляў, тэле- і радыёперадач звужаецца. Што да сучасных рытмаў, калі слухаю расійскую поп-музыку, здаецца, што спявае адзін і той жа выканаўца...

**— Чаго чакаеце ад запланаванага 22 лютага ў Белдзяржфілармоніі канцэрта да 25-годдзя творчай дзейнасці?**

— Гэта маленькі творчы і жыццёвы этап. У асабістай скарбонцы ўжо тры альбомы: «Дзень добры», «Колькі ў небе зор», «Ты са мной». Да 25 годдзя творчай дзейнасці выходзіць чацвёрты сольны «Іду да песні…» на беларускай, рускай, польскай і ўкраінскай мовах. Канцэрт імкнуся зрабіць насычаным і цікавым для ўсіх узростаў. Так, Вольга Плотнікава, Вікторыя Алешка, Алена Ланская, гурт «Hurma» больш маладзевага напрамку. Арт-група «Беларусы», ансамбль «Гуляй, казак!», Дзяржаўны ансамбль танца Беларусі, мой родны ансамбль «Свята» — выканаўцы народнага жанру. Фальклор ужо не той: сёння сумесь музыкі, танца, песні падаецца і глядзіцца інакш.

**Таццяна ШЫМУК**



*Дзяржаўны ансамбль народнай музыкі «Свята».*

# Вяртанне на Радзіму

**У канцэртным сезоне 2015 года ансамбль салістаў «Класік-Авангард» Беларускай дзяржаўнай філармоніі рыхтуе цыкл канцэртаў, прысвечаных 250-годдзю з дня нараджэння сусветна вядомага кампазітара, дыпламата, грамадскага і палітычнага дзеяча, мецэната і гісторыка-мемуарыста Міхала Клеафаса Агінскага (1765 — 1833).**

Гэта першая і адзіная ў сваім родзе цэласная, паглыбленая рэканструкцыя музычнай творчасці М. К. Агінскага, — рэканструкцыя, якая абапіраецца на самыя новыя навуковыя даследаванні жыцця і мастацкай спадчыны кампазітара.

Першы канцэрт цыкла адбыўся ў малой зале Белдзяржфілармоніі 11 лютага (мастацкі кіраўнік — Уладзімір Байдаў). Далей запланаваны выступленні ў гарадах Беларусі (Смаргонь, Паставы, Бешанковічы, Маладзечна), Літве, Польшчы, Італіі і Францыі.

«Класік-Авангард» прапануе слухачам унікальную магчымасць пачуць творы М. К. Агінскага як у арыгінальных версіях, так і ў новых апрацоўках для ансамбля салістаў. Апрача таго, слухачы змогуць пазнаёміцца з музыкай, якая спадарожнічала Агінскаму ў ключавыя перыяды яго жыцця, музыку, якой ён захапляўся і якая аказала ўплыў на яго творчасць. Таму асобныя канцэрты будуць звязаныя з тымі культурнымі сталіцамі і месцамі, у якіх кампазітару давялося жыць і працаваць.

Прагучаць не толькі агульнавядомыя сачыненні М. К. Агінскага на чале з паланэзам «Развітанне з Радзімай» — адкрыюцца малазнаёмыя старонкі яго музычнай творчасці. У прыватнасці, нядаўна знойдзеныя ў архіўных зборах маршы кампазітара, фрагменты яго оперы «Зеліс і Валькур», невядомыя рамансы і г. д. Канцэрты будуць суправаджацца навукова-папулярнымі каментарыямі, заснаванымі на архіўных дакументах, карэспандэнцыі М. К. Агінскага і яго музычна-эстэтычнай працы «Лісты пра музыку».

Святочныя мерапрыемствы запланаваны па ўсім свеце ў сувязі з абвяшчэннем Сусветнай міжнароднай арганізацыяй ЮНЕСКА 2015 года Годам М. К. Агінскага.

Асаблівая роля ў святкаванні юбілею належыць Беларусі — гістарычнай радзіме Міхала Клеафаса, якую ён моцна і аддана любіў. Пасля праведзеных у ваколіцах Варшавы дзяцінства і юнацтва, бліскучага пачатку дзяржаўнай кар'еры і бунтарскіх гадоў эміграцыі менавіта ў Залессі каля Смаргоні ён вырашае пабудаваць уласны дом. З цягам часу сядзіба атрымала назву Паўночных Афін, бо сталася адным з найбольш вядомых інтэлектуальных і культурных цэнтраў краю.

Жывучы на беларускай зямлі, М. К. Агінскі адным з першых займаецца пытаннем вызвалення мясцовых сялян, дамагаецца змяншэння падаткаў, закладае асновы адукацыйнай сістэмы Маладзечна, засноўвае Віленскае таварыства дабрачыннасці і друкарскае таварыства, распрацоўвае праект нацыянальнага тэатра. Урэшце, рыхтуе «Мемарыял» — патрыятычны дакумент, скіраваны на атрыманне аўтаноміі былых земляў Вялікага Княства Літоўскага.

Цыкл канцэртаў ансамбля салістаў «Класік-Авангард» — важны крок дзеля папулярызацыі творчасці М. К. Агінскага.

**Вера ЛАНКОЎСКАЯ**

# «Вось здыму бараду, пераапрануся...»

Фота з архіва Купалаўскага тэатра

**У дачыненні да акцёра вядомую фразу можна перафармуляваць так: скажы мне, пра якую ролю марыш, і я скажу, хто ты. Генадзь Аўсяннікаў, які ўчора адсвяткаваў 80 гадоў, марыў пра ролю Швейка. Можна толькі ўявіць, якая б гэта была ігра, які спектакль. Зрэшты, Генадзь Сцяпанавіч, які ўпершыню выйшаў на сцэну Купалаўскага больш за паўстагоддзя таму і звязаў з ім усё сваё тэатральнае жыццё, без таго мае нямала яскравых, выбітных прац — пачынаючы ад першай вялікай, лёсавызначальнай ролі Цярэшкі Калабка ў «Трыбунале» і заканчваючы Глушаком у „Людзях на балоце" ці Дзмітрычам у прэм'ерным спектаклі «Тата». Аднак лепш за Генадзя Аўсяннікава ніхто пра яго не распавядзе.**

**— Памятаеце свой самы першы спектакль?**

— Калі я быў яшчэ студэнтам, Саннікаў Канстанцін Мікалаевіч увёў мяне ў спектакль «Канстанцін Заслонаў» Маўзона. Вось, значыцца, сцэна — звычайная, «непрыхотлівая», сёння б на яе і ўвагі ніхто не звярнуў: рабочыя ў Аршанскім дэпо, каля іх ходзіць немец, хворы такі, захутаны ў жаночую хустку: „арбайтэн, арбайтэн!" — усіх падганяе — «шнэлле!» — і чхае. Глеб Паўлавіч [Глеб Глебаў выконваў ролю Антона Кроплі. — **Н. Г.**] кажа яму: „Каб ты здох!" Немец: „Вас, вас?" І тут ужо я яму: „Вот… Каб ты здох, прыгожанькі ты які!.." Зала — а мінула восем гадоў пасля вайны — проста ўзарвалася. Стаяў такі свіст і гам, як бы на сённяшнім канцэрце поп-зоркі. З дзеючай асобы я міжволі ператварыўся ў гледача — стаю і назіраю за Глебавым і «немцам». У антракце да мяне падыходзіць Саннікаў: „Што ты стаў слупом! Ты ж артыст! Ты мусіш немца баяцца!.." Я адказаў, што так заўсёды і бывае: усе баяцца, а аднаму чалавеку нічога не страшна — яму цікава. Саннікаў пагадзіўся.

А ўжо як акцёр Купалаўскага я выйшаў у п'есе Святлова «Праз дваццаць год»: граў камсамольца, які ідзе на фронт. І зноў жа, Канстанцін Мікалаевіч Саннікаў увёў мяне на ролю Смалягі ў тагож «Канстанціна Заслонава». Персанаж быў адмоўны, і ў пралогу Заслонаў яго застрэльваў.

**— Вам падабаюцца адмоўныя ролі?**

— А іх цікавей іграць!.. У новых п'есах цяпер і не зразумееш, хто адмоўны, хто — не. Усе філасофствуюць, ніякага дзеяння… Я, канечне, абагульняю. Самае вядомае правіла Канстанціна Сяргеевіча Станіслаўскага — шукай у адмоўным станоўчае. Нельга ўсё маляваць адной фарбай. І гэтак жа трэба шукаць адмоўнае ў станоўчых вобразах, бо ідэалаў не бывае, хіба анёлы якія.

**— А ёсць такая роля, ад якой бы Вы адмовіліся?**

— Ніколі не адмаўляўся, нават калі бачыў, што не атрымліваецца, і адчуваў — не маё. Рэжысёр сам зразумее, калі акцёра нявыхва займаць вось у гэтай пэўнай ролі. Усё высвятляецца падчас працы.

**— Дарэчы, пра рэжысёраў. Маючы такі вялікі тэатральны досвед, Вы, быць можа, даяце ім парады? Ці гэта не дазволена прафесійным этыкетам?**

— Не, гэта заўсёды дазволена, толькі не парады хутчэй — абмеркаванне, спробы высветліць: што я, урэшце, павінен зрабіць?.. Даходзіць часам да сапраўдных спрэчак, таму што я са сваёй званіцы гляджу на ролю, а ў рэжысёра — іншае бачанне, ужо сфарміраваная задума, згодна з якой усё і манціруецца. Так і атрымліваюцца дыспуты на творчую тэму.

**— Калі б Вам давялося паставіць спектакль, якую б п'есу выбралі і каго запрасілі б на ролі?**

— Я ніколі не буду ставіць спектаклі, але калі пафантазіраваць... Што-небудзь з горкаўскіх «басякоў» — «Чалкаша», напрыклад, ці «На дне». Народныя персанажы выпісаны вельмі яскрава, і калі яны лягуць на акцёрскую індывідуальнасць, і іграць нічога будзе не трэба. «На дне» размеркавалася б у трупе Купалаўскага выдатна. У нас для гэтай п'есы нават зашмат індывідуальнасцей. Колькі яркіх маладых акцёраў!

**— Вы казалі, што даўней марылі сыграць Швейка. Ці ёсць у Вас сённяшняя роля-мара?**

— Фірс у «Вішнёвым садзе». Даўно ўжо мару пра яе, гэтую ролю. Сыграў бы ў «Нахлебніку» Тургенеўскім! Артысты плачуць, зала плача — так меладраматычна...

**— А якая з Вашых прац далася найбольш цяжка?**

— Мне ўсе цяжка даюцца. Калі праца ідзе лёгка, гэта значыць, нешта не ў парадку. Я мушу апрануць чужую скуру — ці сябе ўвапхнуць у яе, а гэта няпроста. Канечне, не так цяжка, як соль грузіць ці траншэю капаць, — але цяжка.

**— У Вас шмат «сялянскіх» роляў, але былі і іншыя, адрозныя, і цікава, якую з іх Вы лічыце самай супрацьлеглай звыкламу амплуа?**

— Нешта я і задумаўся… Фама Апіскін, напэўна [«Вечны Фама» У. Бутрамеева паводле Ф. Дастаеўскага. — **Н. Г.**]. Філосаф, які хоча ўсё падмяць пад сябе і ўсіх навучаць. Вось гэта сапраўды антыпод усім маім цярэшкам калабкам, маім героям з драматургіі Макаёнка і ўвогуле — усім персанажам.

**— І Вам асабіста?**

— І мне асабіста.

**— Значыць, так званыя сялянскія героі Вам сапраўды блізкія?**

— Пэўна, слова «сялянскія» не зусім тое. «Народныя персанажы» — так бы я сказаў. За жыццё я нагледзеўся на мужыкоў, дзядоў, і мне пасуе іх стаўленне да жыцця, іх паводзіны. Цяпер хлопцы, канечне, ужо не ходзяць на вакзал, як мы калісьці, а даўней там было столькі персанажаў! І дзядзькі раз'язджаюць, і цёткі такія, што божа мой, — і як апранутыя!.. Неяк адзін хлопец зрабіў мне заўвагу падчас здымак: «Разве так теперь ходят — тулуп, валенки с галошами?..» «А калі ты быў у вёсцы?» — пытаюся. «Я не был...» Сёння і вакзал ужо не той — прыгожы, сталічны… Такіх персанажаў туды, пэўна, і не пусцілі б цяпер. Просты народ ні на каго не глядзіць — ён робіць справу. А гарадскія… Адчуваецца ў іх — непрыгожае слова, канечне, — «выпендрёж».

**— Цікава ў такім разе даведацца, што для Вас галоўнае ў чалавеку?**

— Усё кепскае чалавеку прыдаецца звонку: скупасць, хітраванне, эгаізм, калі ён можа доўга разважаць, а ці пазычыць іншаму пяць капеек. Галоўнае — чалавечнасць. Тут усё маецца на ўвазе: не быць нікому ворагам, клапаціцца не адно пра сябе... Але ніхто лепш за Васіля Быкава не скажа. Ён вызначыў інтэлігента як чалавека, які не займае многа месца. Прыйшоў, скажам, дзядзька на сход, сеў і ціхенька чакае. А іншы прыйдзе — адразу ўздымае вэрхал, цягне коўдру на сябе, патрабуе ўвагі. А той, што ціхенька сядзіць, можа, і работнік лепшы... Так, лепш за Быкава я не скажу.

**— У Купалаўскім Вы ўжо 58 гадоў і, пэўна, ведаеце яго, як ніхто іншы. Як бы Вы апісалі тэатр, скажам, замежніку, які не мае пра яго ніякага ўяўлення?**

— Я б сказаў: прыходзьце, гэта такі тэатр, дзе «сёння, зараз, упершыню ствараюць жыццё чалавечага духу».

**— Пра што Вы думаеце, калі апускаецца заслона?**

— Чэсна?.. «Ага, вось зараз здыму бараду, пераапрануся...» Калі недалёка быў Дом мастацтваў, у якім працавала кафэ, думаў зайсці, пасядзець, кілішак выпіць, пагутарыць з людзьмі з іншых тэатраў. А зараз і сустрэцца няма дзе. Усе са скрынямі размаўляюць! І я таксама. Не ісці ж у Дом афіцэраў на танцы — я і ў «Паўлінцы» магу станцаваць.

Мне думаецца, усё гэта — самалюбаванне, калі акцёр пачынае расказваць, маўляў, тут я не так сыграў, там іначай мог бы зрабіць… Само сыграецца наступным разам, калі не атрымалася цяпер.

**— Наконт хвалявання перад спектаклямі: яно мінае з часам?**

— Яно не можа мінуць ніколі, бо тэатр — жывое мастацтва. Калі я выйду пустым барабанам, то і гледача не зачаплю.

**— Дазваляеце сабе імправізацыі?**

— Дазваля-яю… Але не адыходжу дужа далёка, хоць часам і так атрымліваецца: не даў значную рэпліку, ад якой мусіць іграць партнёр — і даводзіцца выкручвацца, каб зноў узбіцца на сваю хвалю.

**— Не стамляецеся раз за разам адыгрываць адно і тое ж?**

— Не, хоць «Трыбуналаў» я сыграў 650 і іншых макаёнкаўскіх п'ес — пад дзвесце разоў кожную. Было шмат выязных спектакляў, ездзілі па калгасах…

**— І перад якой публікай цікавей выступаць: перад сталічнай ці той, «выязной»?**

— І той, і той — галоўнае, каб глядач быў саўдзельнікам спектакля. Хіба што ў горадзе на тую ж п'есу пра калгас публіка рэагавала інакш. Сам я гэтага не бачыў, але ведаю гісторыю пра Лідзію Іванаўну Ржэцкую, калі пасля п'есы «Выбачайце, калі ласка» да яе прыйшлі бабкі і прасілі застацца ў іх «прэдсядацелем».

**— А ў Вас здараліся такія неардынарныя выпадкі?**

— Усякае бывала, *(Генадзь Сцяпанавіч таямніча пасміхаецца)*, але збольшага проста падыходзяць, каб падзякаваць.

**— Калі Вы толькі прыйшлі ў тэатр, у Вас, пэўна, было адно разуменне яго сутнасці, якое з часам змянялася. Як Вы глядзіце на тэатр сёння?**

— Адразу ўзгадваецца Гогаль: «Тэатр — кафедра, з якой можна сказаць слова праўды» — і ўсё ж я не хацеў бы казаць так. Для мяне тэатр стаў, па-першае, домам. А па-другое — «в условиях жизни роли, в полной аналогии с ней мыслить, хотеть, стремиться, действовать, находясь на подмостках сцены, — значит верно играть роль». Пушкін сказаў гэта задоўга да Канстанціна Сяргеевіча Станіслаўскага, і ў выказванні гэтым — усё.

**— Галоўнае, чаму Вас навучыў тэатр?**

— Аналізаваць і мець пачуццё меры. А самае галоўнае — разумець праўду. Таму я не вельмі люблю ўсялякія шоу. Як я казаў аднойчы, у тэатры мусіць быць толькі Бернард Шоу, а ўсякія іншыя — гэта, калі ласка, у Палац спорту.

**Наста ГРЫШЧУК**

## Паваротная падзея



**Жана ЛАШКЕВІЧ**

# Зачараваны адсотак

Тэатральная дзейнасць — яна такая...Часам прыбытковая, часцей — стратная. Да верасня 2010 года страты ад тэатральнай дзейнасці фінансаваў дзяржаўны бюджэт. Зараз (паводле Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 457 «Аб падтрымцы асобных арганізацый культуры...») бюджэт фінансуе вынікі тэатральнае дзейнасці (бягучае ўтрыманне ўстановы паводле асноўных артыкулаў выдаткаў).

Вынікі тэатральнае дзейнасці — яны такія... Як тэатры. Розныя і адрозныя, з якіх бакоў ні зайсці. Агульны на ўсіх крытэрый — глядзельня.

— З 2014 года, — каментуе дырэктар Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Максіма Горкага Эдуард Герасімовіч, — кожны глядач мусіць патрапіць у так званы «адсотак сярэдняй запаўняльнасці» паводле Загада Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь ад 18.04.2014 № 65. Для кожнага тэатра вызначаны свае адсоткі, маўляў, такая і аніяк не інакшая колькасць гледачоў павінна займаць хаця б партэр. Калі больш — добра. Менш — крый божа. Катастрофа. Недавыкананне. Альбо наладжвай мерапрыемствы, якія вокамгненна гарантуюць глядацкае паломніцтва, запрашай усіх агулам, нягледзячы на абазнанасць і падрыхтаванасць, рыхтуй спектакль, які дасць касу і... нічога, акрамя касы. Альбо вяртай грошы ў дзяржаўны бюджэт. Даставай з працэсу (спектакляў, аднаўленняў, выездаў), але вяртай...

Такім чынам, паводле аднаго з дасведчаных тэатральных дырэктараў, адсотак сярэдняй запаўняльнасці залы хутка і якасна дапамагае тэатру... пазбыцца гледачоў з выхаваным густам і высокімі запатрабаваннямі. Сталых і пастаянных. Не прыцягнутых адміністратарам, але спакушаных відовішчам. Бо якраз такія глядачы «лішнія» грошы на тэатр знаходзяць не заўсёды, а толькі тады, калі спектакль, на іхнюю думку, гэтых грошай варты. (Тым самым Указам № 457 тэатру надалі права ўстанаўліваць цэны на квіткі ў межах стоадсоткавай агульнай колькасці месцаў у глядзельнай зале, то бок у межах пэўнага спектакля арыентавацца на рынкавы механізм узаемадзеяння попыту і прапановы.)

Апошняе дзесяцігоддзе спатоліла глядацкі попыт на тэатральныя відовішчы: з'явіліся гандлёва-забаўляльныя цэнтры, завіталі заезджыя «зоркі», дбаюць пра вольную часіну сталічнага жыхара і тутэйшыя антрэпрызы. А калі цягам некалькіх тэатральных сезонаў Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя Максіма Горкага не патрапіле наладзіць гастролі, калі адзінаццаць месяцаў запар вымушаны працаваць на стацыянарнай пляцоўцы, так званая тэндэнцыя да памяньшэння глядацкага попыту можа зрабіцца праблемай.

Але ж тэатр імя Максіма Горкага — дзяржаўны. У дакументах, якія вызначаюць ягоную дзейнасць, зацверджаны абавязкі і прыярытэты. Перадусім — далучэнне грамадзян Беларусі да нацыянальнай і сусветнай спадчыны праз стварэнне спектакляў, якія звяртаюцца да праблем духоўнага жыцця чалавека, а таксама выхаванне нацыянальнай самасвядомасці гарманічнай асобы. Бясспрэчна, мэты вымагаюць адпаведных пастановак... якімі не спакушанаму, а прыцягнутаму гледачу так лёгка пагрэбаваць.

# Мадонны эпохі Адраджэння

Вобраз Дзевы Марыі — адзін з самых папулярных сярод мастакоў усіх часоў і школ. На працягу стагоддзяў, з узбагачэннем мастацтва новым зместам, змянялася і іканаграфія Маці Божай. Выстаўка «Mater Dei. Іканаграфія аднаго кахання», якая адкрылася ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, прапануе ўнікальную магчымасць пазнаёміцца з шэрагам іканаграфічных схем гэтай выявы на прыкладзе работ італьянскіх жывапісцаў, маляўнічшыкаў і гравёраў XV — XIX стагоддзяў.



*Невядомы мастак «Мадонна з дзіцем». XVII ст.*

Творы ў экспазіцыі выяўляюць два аспекты: рэлігійны і мастацкі. Храналагічныя межы выстаўкі ахопліваюць XV — XIX стагоддзі, але асноўная частка экспанатаў звязана з эпохай Адраджэння (канец XIII — апошняя чвэрць XVI стагоддзя).

Сярод выяў Мадонны з дзіцем «Mater Dei. Іканаграфіі аднаго кахання» можна вылучыць наступныя іканаграфічныя схемы: Дзева Марыя, якая корміць грудзьмі дзіця — найбольш старажытны тып адлюстравання, які мае аналогіі яшчэ ў дахрысціянскім мастацтве. Парафразай гэтай схемы можа служыць прадстаўленая кампазіцыя «Мадонна з дзіцем і Іаанам Хрысціцелем» Джачынта Баканеры (1666 — 1746). Дзева Марыя з дзіцем на троне — тып, вядомы як Царыца Нябесная. Гэты іканаграфічны вобраз ілюструюць гравюры Карла Лазініа (1759 — 1838) і Матэа Карбоні (1768 — каля 1805). Дзева Марыя з рукамі, складзенымі ў малітве, — тып адлюстравання ў позе пакланення, калі дзіця ляжыць у Мадонны на каленях або на зямлі. Прыкладам гэтай іканаграфіі можа служыць «Мадонна з дзіцем» (1495 — 1515) Бернардзіна Фунгай (1460 — пасля 1516) і аднайменны малюнак невядомага мастака першай паловы XIX стагоддзя. Дзева Марыя як маці — простае адлюстраванне Мадонны, якая трымае дзіця. У эпоху Адраджэння гэты вобраз усё больш і больш афарбоўваецца чалавечым пачуццём, губляючы рэлігійнае значэнне. Вобраз Дзевы Марыі з фігурамі святых і данатараў — адзін з ранніх тыпаў адлюстравання. Вобразы Мадонны з дзіцем у адлюстраваннях Святога Сямейства і сцэн Пакланення пастухоў.

Сярод графічных твораў, прадстаўленых на выстаўцы, — малюнкі пераважна невядомых мастакоў XIX стагоддзя з калекцый фондаў Школы малюнка Акадэміі мастацтваў імя П'етра Ванучы, а таксама гравюры XVII — першай паловы XIX стагоддзя з папулярнага гравюрнага альбома «Этрурыя мастацкая, або Гісторыя жывапісу Тасканы, заснаваная на яе помніках, прадстаўленых у гравюры, з X стагоддзя да нашых дзён», выдадзенага Нікола Паны і Джузэпэ Бардзі (працавалі ў 1780 — 1790-х) у Фларэнцыі.



*Невядомы мастак «Мадонна з дзіцем». Пачатак XVI ст.*

Большую частку экспазіцыі складаюць палотны з дзяржаўных і прыватных калекцый італьянскага горада Перуджы (Акадэмія мастацтваў імя П'етра Ванучы, Нацыянальная галерэя Умбрыі і Ашчадны банк Перуджы) і калекцыі Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі.

Падчас цырымоніі адкрыцця выстаўкі пасол Італіі ў Беларусі Стэфана Б'янкі адзначыў, што Перуджа — яго родны горад і прывезці адтуль палотны, паказаць іх беларускаму гледачу было яго марай і адной з эстэтычных мэт дыпламатычнай місіі ў нашай краіне.

У творах экспазіцыі пераважна аднолькавы сюжэт, аднак гэтыя паўторныя сцэны вылучаюцца багатай разнастайнасцю. Усе яны створаліся рознымі мастакамі ў розныя гістарычныя і стылістычныя перыяды. Адзінае, што іх аб'ядноўвае (акрамя прыналежнасці да італьянскай мастацкай школы), — агульны стан веры, любові і пяшчоты, характэрны для сюжэтаў Пакланення і вобразаў Мадонны з дзіцем.

Выстаўка «Mater Dei. Іканаграфіі аднаго кахання» працягнецца да 4 мая.

**Таццяна ШЧЭРБА**

# Хараство традыцыі

**Выстаўка мастацкага тэкстылю і керамікі «СЕМ+2» адкрылася ў Цэнтры сучасных мастацтваў. У экспазіцыі — работы вядомых творцаў — членаў Беларускага саюза мастакоў. Наведвальнікі ўбачаць дзівосныя габелены, ручнікі, керамічныя скульптуры і не толькі.**

Уласныя творы ўвазе публікі прадставілі Ала Непачаловіч, Наталля Сухаверава, Уладзімір Лісавенка, Алена Обадава, Марыя Барысенка, Вольга Рэднікіна, Алена Сяргеева, Тамара Васюк і Наталля Яўглеўская.

У творчую групу «Сем+2» уваходзяць мастакі-аднадумцы, якія імкнуцца да вяртання традыцый, папулярызацыі народных рамёстваў. Нягледзячы на тое, што аўтары працуюць у розных кірунках, іх творы аб'ядноўвае агульная канцэпцыя: увасабленне гармоніі жыцця, адвечных уяўленняў пра дабро, каханне і прыгажосць.

Работы выкананы з самых розных матэрыялаў: воўны і лёну, гліны і шкла, метаніту і сізаля, сінтэтыкі і надпаліўнага золата… Тут можна ўбачыць цікавыя тэмы і сюжэты, спалучэнне незвычыйных мастацкіх тэхнік. Творы раскрываюць гледачу таямніцы духоўнасці.

Пракаментаваў выстаўку графік, паэт, старшыня Беларускага саюза мастакоў Рыгор Сітніца: «Работы, падрыхтаваныя да экспазіцыі, створаны на аснове традыцыйнай культуры беларускага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Адметна, што майстры не толькі захавалі традыцыі, якія назапашваліся на працягу многіх гадоў, але і дапоўнілі іх сучаснымі мастацкімі прыёмамі».



*Тамара Васюк «Прадчуванне». 2013 г.*



*Вольга Рэднікіна «Жніво». 2014 г.*

На адкрыцці прысутнічалі мастакі, якія пагадзіліся: выстаўка — магчымасць спыніцца і паглядзець на хараство навакольнага свету, адчуць сутнасць традыцыйнага мастацтва. Аўтары работ падзяліліся і творчымі планамі: неўзабаве адбудзецца яшчэ адна буйная сустрэча ў Польшчы.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

ЛіМ

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**



**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
адказны сакратар — 284-97-09
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 284-66-71
аддзел прозы і паэзіі — 284-44-04
аддзел мастацтва — 284-82-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
**Друкарня Адкрытага акцыянернага таварыства «Чырвоная зорка»**
ЛП № 02330/99 ад 14.04.2014
г. Мінск, 1-ы Загарадны зав., 3
Індэкс 220073

Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2257.
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 19.02.2015 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 1459 г.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686
9 770024 468001
15007